1 лістапада 2019 | № 41 (652)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**Крах аперацыі «напаўтранзіт»**
Стар. 8

**ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА!**

**Наступны нумар газеты выйдзе 15 ЛІСТАПАДА. Заставайцеся з намі!**

Падпісвайцеся на «Новы час» і чытайце novychas.by!




**4–5 РАСІЙСКІ ЎПЛЫЎ І КАНТРОЛЬ У БЕЛАРУСІ**

Расійская амбасада ў Беларусі займаецца не толькі падтрымкай дыпламатычных і гандлёвых зносінаў, культурніцкім і гуманітарным абменам

**6–7 ХТО АБАРОНІЦЬ ДЗЯЦЕЙ АД ГВАЛТУ?**



**10 «МЫ МАЕМ ПРАВА МАЛІЦЦА НА САВЁЙ МОВЕ»**

Святар Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Леанід Акаловіч склаў дзясяткі радаводаў, выдаў паўтары сотні навуковых прац...

# Эскалацыя істэрыі



Сяргей ПУЛЬША

**Танкі падступнага NATO рухаюцца да нашай мяжы — навошта? Мы, беларусы, мірныя людзі, але, калі трэба, уломім ім так, што мала не пакажацца. Аднак спачатку мы павінны ўдосталь абмеркаваць і разабрацца, за што і каму наваляем.**



Фота ТАСС

Прыкладна так можна распавесці пра істэрыю ў беларускім афіцыёзе з нагоды прыбыцця ў Літву кантынгенту арміі ЗША. Адразу адзначу, што пра разгортванне амерыканскіх вайскоўцаў непадалёк ад беларуска-літоўскай мяжы было вядома даволі даўно — прынамсі з канца верасня. Больш за месяц таму мы ведалі нават пра склад гэтай групоўкі: 1-ы танкавы батальён 9-га палка 1-й дывізіі арміі ЗША, 30 танкаў «Абрамс», 25 баявых машын пяхоты «Брэдлі», 70 ваенных грузавікоў. Тады паведамлялася, што амерыканскі батальён будзе размяшчацца ў Літве да вясны 2020 года.

Прычым, з вясны 2014 года ў Літве ўжо было разгорнута больш за дзесяць ратацый сухапутных войскаў ЗША, апошняя з якіх была ў балтыйскай рэспубліцы ў 2017 годзе. І нікога гэта, па вялікім рахунку, не турбавала. Але зараз нечакана ў дзяржпрапаганды пачалася нейкая істэрыя. Дня не праходзіць, каб пра танкі NATO хто-небудзь не згадаў. Іх абмяркоўваў нават «Клуб рэдактараў» на БТ.

У прынцыпе, даволі слушна сказаў пра гэтую групоўку і беларускі кіраўнік. Па яго словах, 30 танкаў — смешна для нашага войска, і падобны кантынгент нават асаблівай увагі не патрабуе.

Больш турботна, напэўна, для Беларусі тое, што ў наступным годзе ў Еўропе чакаюцца вялікія вайсковыя вучэнні NATO Defender Europe. Яны пройдуць на тэрыторыі дзесяці еўрапейскіх краін, уключаючы Польшчу, Літву і Латвію. У манеўрах прымуць удзел вайскоўцы з 18 дзяржаў у колькасці ад 37 да 40 тысяч. Мажліва, гэта напружыла беларускія ўлады?

Насамрэч, наўрад ці. Адно з адрозненняў вучэнняў NATO — гэта іх адкрытасць. Прынамсі, ужо зараз мы ведаем, колькі вайскоўцаў будзе ў іх удзельнічаць, і дзе яны будуць праходзіць — у адрозненне, напрыклад, ад нашых з Расіяй вучэнняў «Захад–2017». Ці не ў апошні момант мы даведаліся пра «Вейшнорыю», а пра тое, што яна з'яўляецца толькі складнікам агульнарасійскіх вучэнняў «Захад» — і пагатоў толькі ў час аперацыі. Зазначым таксама, што ў час тых мерапрыемстваў, па некаторых звестках, адпрацоўваўся ядзерны ўдар па Літве і Польшчы. Таму зусім не дзіўна, што NATO вырашыла неяк падрыхтавацца.

Да таго ж, не дзіўна, што Паўночнаатлантычны альянс разам з саюзнікамі праводзіць вучэнні ў нашым рэгіёне. Бо «тэатр ваенных дзеянняў» (патэнцыйных, канешне) значна змяніўся. І звязана гэта з пабудовай атамнай станцыі ў Астраўцы. Вядома, вайскоўцы як з «таго», так і з «іншага» боку павінны гэты фактар улічваць. То-бок, у нечым высадку амерыканскага кантынгенту ў Літве мы справакавалі самі.

> **30 танкаў Альянсу — зусім не праблема для адной рэактыўнай сістэмы залпавага агню «Смерч», якая ператварае ў пустэчу плошчу ў 60 гектараў**

Але ўсё ж паўстае пытанне: каму выгадная гэтая істэрыка з «танкамі NATO»? 30 танкаў Альянсу — зусім не праблема для адной рэактыўнай сістэмы залпавага агню «Смерч», якая на адной загрузцы ператварае ў пустэчу 60 гектараў (а такіх установак у беларускім войску аж 40). Дык навошта з камара каня рабіць?

Можа быць, нехта перад прэзідэнцкімі выбарамі зноў вырашыў разыграць козыр «абы не было вайны»? Дык пасля Украіны гэта наўрад ці спрацуе. Там, усё ж, рэальныя вайсковыя дзеянні, а не вучэнні — і на Беларусі не адбілася. Мабыць, нехта ў чарговы раз вырашыў пахваліцца сваёй «міратворчасцю»? Таксама не пракатвае, тады лепей было б гэтыя танкі не заўважаць.

Падобна, справа ў тым, што на амерыканскія войскі ў Літве моцна ўзбудзіліся ў Расіі. Як заўважыў, напрыклад, ваенны эксперт Леанід Спаткай, размяшчэнне кантынгенту ЗША на мяжы з Беларуссю было ацэненае ў расійскай прапагандзе адназначна: без вайсковай падтрымкі Расіі Беларусі — канец, а таму трэба тэрмінова размяшчаць у Сінявокай ужо расійскую ваенную базу. Пра што размовы ходзяць даволі даўно, але беспаспяхова.

Беларускае ж кіраўніцтва ад «саюзных» войскаў адхрышчваецца як можа і як не можа. А вось беларускія сродкі масавай прапаганды...

Міжволі ўзгадваецца цікавы маніторынг наяўнасці ў беларускіх дзяржаўных СМІ прарасійскай прапаганды, які ў лютым гэтага года прадставіла Беларуская асацыяцыя журналістаў. Па выніках даследавання васьмі тэлеканалаў, якія ўключаныя ў абавязковы для трансляцыі пакет праграм, атрымалася, што пад 50% іх праграм так ці інакш транслююць расійскую прапаганду і расійскія каштоўнасці. А той жа маніторынг «галоўнай газеты краіны» — «СБ — Беларусь сегодня» — паказаў, што амаль у кожным з яе нумароў з'яўляўся матэрыял, які прасоўваў прарасійскую тэматыку альбо пазіцыю.

У гэтай сітуацыі дзяржаўныя СМІ не маглі не падхапіць расійскі «істэрычны вірус». Але ж з маленечкай папраўкай: яны не могуць «пайсці супраць бацькі» і, па расійскаму прыкладу, агітаваць за расійскую ваенную прысутнасць у Беларусі. А таму падхопленая імі істэрыка выглядае нягегла. Гэтая сітуацыя чарговым разам дае падставы задацца пытаннем: на якую дзяржаву працуюць беларускія дзяржаўныя СМІ?

# Курапаты — дарога жыцця

Зміцер ДАШКЕВІЧ

**Мяне не адпускае перажыванне, навошта мы стаімо там, трэці год у Курапатах?**




У мяне ўжо і натхнення няма змагацца за іх, і сілы даўно сышлі. І я іду на апошніх высілках і малюся: Божа, калі ўжо Ты ўсё гэта скончыш?! Бо так не хачу я кожную пятніцу ісці туды. Я хачу ўзяць сям'ю і, як кожны нармальны беларус, паехаць пасля працоўнага тыдня на лецішча. Але я іду і стаю.

Што трымае мяне на гэтай Курапацкай дарозе? — задаю я пытанне сам сабе. І прыходжу да разумення: трымае мяне на гэтай дарозе ўпэўненасць у тым, што сёння ў Курапатах Творца гісторыі да чагосьці рыхтуе наш народ. Рыхтуе да таго, што мы недарабілі, калі выйшлі пасля 70-гадовага тэрміну з турмы народаў.

Тады, у канцы 80-х — пачатку 90-х, было шмат зроблена, але не хапіла моцы на галоўнае — правесці дэкамунізацыю. Многія тады лічылі, што няма розніцы, як называюцца вуліцы і каму стаяць помнікі — абы дабрабыт быў. Што ж, прыйшоў той, хто паабяцаў дабрабыт пасродкам вяртання назад у турму. У Бібліі ёсць цікавая прыпавесць, якую Ісус прамаўляе сваім сучаснікам. Калі злы дух выйдзе з чалавека, то праз нейкі час вяртаецца, каб паглядзець на свой былы дом. І калі знаходзіць яго не занятым, то бярэ яшчэ сем злейшых за сябе духаў і пасяляецца ў былым доме наноў — і гэта другое горшае для чалавека за першае. І далей Хрыстос кажа галоўнае: тое ж самае будзе і з родам гэтым. І ў якой нармальнай краіне метафары такой можна было б і не зразумець, але ў Беларусі яна відавочная. Як нам не было справы да вуліц, помнікаў і ідэяў — прыйшоў яшчэ горшы за той згнiўшы савок, які вярнуў не толькі «свята» 7 лістапада, а рэанімуе нават праклятае самой кампартыяй імя Сталіна.

Мы глядзім на ўсё гэта спакойна, а потым пытаемся: а чаму мы жывем так, як жывем? Ці не таму, што ў Беларусі не адбылося асэнсавання злачынстваў камунізму і пакаяння ў грахах гэтай крывавай ідэалогіі? Як вядома, на Нюрнбергскім трыбунале фашызм быў асуджаны як злачынная ідэалогія за 19 мільёнаў забітых ва ўсім свеце. Камуністы ж толькі ў сябе дома, толькі сваіх суграмадзянаў знішчылі 19,5 мільёнаў (В.В. Эрліхман, «Страты народанасельніцтва ў XX ст.», даведнік. М., Выдавецтва «Руская панарама», 2004).

У Германіі злачынствы нацызму асэнсавалі і ў іх пакаяліся, у Беларусі — не. Разбомбленая ўшчэнт Германія праз 75 гадоў — чацвёртая эканоміка свету, у Беларусі праз 25 гадоў вяртання ў Савецкі Саюз трактарамі выдзіраюць крыжы са змучанай Курапацкай зямлі.

Іх можна зразумець: ім нельга, каб мы памяталі. Таго ж дамагаліся камуністы: што яны толькі ні рабілі, каб мы страцілі памяць! Савецкі генацыд і этнацыд Беларусі не паддаецца дакладным ацэнкам. Камуністычная палітыка вынішчэння нацыянальнай эліты мела планамерны характар і рэалізоўвалася ў некалькі этапаў: 1929–1931, 1932–1934, 1937–1938, 1939–1941, 1944–1946 гадах. З 238 літаратараў эпоху Сталіна перажылі толькі 20(!). Расстрэльвалі амаль усіх, хто меў якое-кольвечы дачыненне да беларускага нацыянальнага руху, асветы. Страцілі жыццё 90% работнікаў першай Акадэміі Навук, большасць выкладчыкаў БДУ. З 12000 настаўнікаў расстраляныя 4000 і, як сцвярджае даследчык эпохі савецкага тэрору Леанід Маракоў, «стралялі пераважна толькі выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры, гісторыі. Настаўнікаў дакладных навук чамусьці не краналі». Толькі ў адну ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года спецслужбы расстралялі 132 (!) прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі — літаратараў, навукоўцаў, дзяржаўных дзеячаў. Такога злачынства не ведае гісторыя ніводнай еўрапейскай дзяржавы.

І яны мелі ўсе падставы быць перакананымі, што нас знішчылі, што Курапаты сталіся магілаю не толькі паэтам, а ўсёй Беларусі. Але Бог кажа людзям: Я маю для вас планы на дабро, а не на зло, на жыццё, а не на смерць. І вось магіла Беларусі, — якая адкрылася праз артыкул «Курапаты — дарога смерці», — абудзіла нацыю. Шмат было тады зроблена, але не былі мы гатовыя да галоўнага: Нюрнбергу над камунізмам. Усвядоміць неабходнасць гэтай дзеі трэба сёння. Цяпер толькі ад нас залежыць, застанемся мы, абуджаныя, у гэтай магіле ці выйдзем вонкі.

Каб на надыходзячым гістарычным пераломе народ наш асэнсаваў злачынствы камунізму і пакаяўся ў іх. І тады Курапаты, дарога смерці, стануць для нас дарогай жыцця. Як калісьці дарога на Галгофу, дарога смерці, сталася для чалавецтва дарогай жыцця.

**www.facebook.com**

# Беларускае заканадаўства не бароніць ад дыскрымінацыі

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Канстытуцыя Беларусі забараняе дыскрымінацыю, але ў нашай краіне ёсць уразлівыя групы, якія адчуваюць яе пастаянна. І пакуль правасуддзе не бачыць праблемы дыскрымінацыі, людзі застаюцца неабароненымі.**

29 кастрычніка ў Мінску сабраліся эксперты з шэрагу няўрадавых, праваабарончых і дзяржаўных арганізацый, каб абмеркаваць праблему рамачнага антыдыскрымінацыйнага закона.

Патрэба ў такім заканадаўчым акце абумоўленая тым, што наша судовая практыка не ўспрымае дыскрымінацыю як тэму, з якой трэба працаваць. Ёсць прыклады, калі суды адмаўляюцца ўзбуджаць справы, звязаныя з дыскрымінацыяй, таму што ў законе не прапісаныя дакладныя працэдуры. А між тым у Беларусі пад дыскрымінацыю трапляюць самыя розныя групы: пенсіянеры, нацыянальныя меншасці, прадстаўнікі ЛГБТ-супольнасці, жанчыны, дзеці, людзі з інваліднасцю, беларускамоўныя...

У 2009 годзе Беларускае таварыства інвалідаў ініцыявала спробу судовага разбіральніцтва па пытаннях дыскрымінацыі — два чалавекі з інваліднасцю не трапілі ў тэатр і ўгледзелі ў гэтым дыскрымінацыю. Але тады суд адхіліў пазоў, таму што ў беларускім праве не замацаваная сувязь паміж дыскрымінацыяй і паразай чалавечай годнасці.

А вось іншы прыклад. У 2016 годзе адна з транспартных кампаній Беларусі высадзіла з рэйсу невідушчага чалавека, таму што ён, паводле правілаў кампаніі, павінен быў перамяшчацца толькі з суправаджаючым. Гэтыя дзеянні кампаніі пракуратура прызнала дыскрымінацыйнымі, што прывяло да змены правілаў транспартных кампаній.

Тэма дыскрымінацыі людзей з інваліднасцю актуалізавалася цяпер і таму, што ў Беларусі абмяркоўваюць законапраект «Аб правах інвалідаў і іх сацыяльнай інтэграцыі».

Кіраўнік Офіса па правах людзей з інваліднасцю Сяргей Драздоўскі зазначае, што няма практычна ніводнай сферы, дзе б не ўзнікала дыскрымінацыі людзей з інваліднасцю: гэта і працоўныя адносіны, і сацыяльная абарона, і адукацыя. На жаль, распаўсюджаныя выпадкі звальнення работнікаў па прычыне інваліднасці, адмовы ў забеспячэнні людзей з інваліднасцю ў зняволенні неабходнымі ім сацыяльнымі работнікамі і іншае.

Некалькі гадоў таму няўрадавыя арганізацыі правялі вялікае даследаванне, якое ахапіла сферы і групы, дзе дыскрымінацыя найбольш праяўляецца ў Беларусі. Высновай стала тое, што існуючыя заканадаўчыя палажэнні не дазваляюць у поўнай ступені рэалізаваць права на роўнасць і забяспечыць абарону ад дыскрымінацыі, таму неабходна прыняць комплекснае антыдыскрымінацыйнае заканадаўства, якое б замацавала асноўныя віды і формы дыскрымінацыі. Такія ж рэкамендацыі прапанавалі для Беларусі шэраг міжнародных праваабарончых арганізацый, у тым ліку Камітэт ААН па правах чалавека.

Апроч таго даследаванне паказала, што адна з актуальных праблем на сёння — адсутнасць абавязковай антыдыскрымінацыйнай экспертызы ацэнкі заканадаўства, якая б у будучыні здымала пытанні парушэння правоў асобных уразлівых груп, кажа Дзмітрый Чарных з Беларускага Хельсінскага камітэту. Цяпер ёсць толькі адна абавязковая юрыдычная экспертыза, але яна не факусуецца на пытаннях дыскрымінацыі. Адсутнічае неабходнасць прыняцця станоўчых мераў дзяржавай для таго, каб любая ўразлівая група магла дасягнуць роўнасці — менавіта з гэтага павінна сыходзіць антыдыскрымінацыйнае заканадаўства, перакананы эксперт.

Аднак прадстаўніца Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў заявіла, што на дадзены момант няма неабходнасці ў антыдыскрымінацыйнай экспертызе заканадаўства, паколькі фактычна яна праводзіцца ў рамках крыміналагічнай экспертызы.

«Заканадаўства Беларусі ацэньваецца на прадмет таго, наколькі яно можа парушыць правы грамадзян. На жаль, правапрымяняльная практыка можа фарміравацца незалежна ад нормаў права. Аднак на сённяшні момант судовая сістэма дазваляе грамадзянам абараняць свае правы», — сказала яна.

Гэтае сцверджанне спрэчнае. У якасці прыкладу можна прывесці нядаўнюю пенсійную рэформу. Павелічэнне страхавога стажу прывяло да таго, што ў большай ступені пацярпелі жанчыны, паколькі ў такі стаж не ўключаюцца перыяды догляду за дзецьмі і сваякамі з інваліднасцю, якія атрымліваюць дзяржаўную дапамогу. Дыскрымінацыя жанчын відавочная, кажа Дзмітрый Чарных.

Тым не менш, прысутнасць на абмеркаванні антыдыскрымінацыйнага заканадаўства прадстаўніцы Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў сведчыць, што дзяржаўныя органы апошнім часам зацікаўленыя ў вырашэнні праблемы дыскрымінацыі.

# Беларуская «ціхая рэвалюцыя»

Яўген КІРЫЛАЎ

**Зрух, што адбыўся ў беларускай эканоміцы за два з лішнім дзясяткі гадоў, сапраўды ўражвае. Усяго некалькі лічбаў, апублікаваных Белстатам, кажуць пра глыбінныя змены ўнутры беларускай эканамічнай сістэмы, нягледзячы на ўсе намаганні ўладаў.**

Глядзіце самі. У 1995 годзе, адразу пасля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі, на дзяржаўных прадпрыемствах было занята каля 60 працэнтаў працаздольнага насельніцтва. Гэта азначае, львіная доля насельніцтва краіны працавала менавіта ў дзяржсектары, які даваў хоць нейкую гарантыю стабільнасці і адноснага дабрабыту.

З часам у Беларусі пачало адбывацца тое, што дакладна не цешыла ні самога кіраўніка краіны, ні чыноўнікаў у цэлым. Колькасць беларусаў, якія працуюць на дзяржпрадпрыемствах, стала імкліва зніжацца.

У 2000 годзе ў дзяржсектары было занята ўжо 57,2 працэнта працаздольных беларусаў, у 2005-м — ужо 51,8 працэнта, у 2010-м — 44,7 працэнта!

Апошнія тры гады занятасць на дзяржаўных прадпрыемствах трымаецца ў межах 40 працэнтаў. Для параўнання: «у прыватніка» цяпер працуе ўжо больш за 56 працэнтаў беларусаў.

Гэта азначае, што сітуацыя памянялася на роўна процілеглую. Нягледзячы на мільярды долараў, укладзеных у дзяржаўныя прадпрыемствы, нягледзячы на ўсе загады кіраўніка дзяржавы, патрабаванні падняць дзяржпрадпрыемствы з каленяў — простыя беларусы прагаласавалі нагамі і фактычна здзейснілі ціхую рэвалюцыю, упадабаўшы працаваць у прыватным сектары, а не дзяржаўным.

З іншага боку, гэтая карціна маляўніча паказвае паступовае згасанне савецкай часткі эканомікі, за якую моцна трымаецца сам кіраўнік краіны і яго асяроддзе. Калі так справа пойдзе і далей, то ездзіць з інспекцыямі, правяраць, дзе працёк дах, і «адкручваць галовы» з часам папросту не будзе каму.

**Паводле gazetaby.com, пераклад НЧ**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Што яшчэ нам непатрэбнае?

Сяргей САЛАЎЕЎ

**«З Расіяй — усё», — прыкладна так павінна думаць наша кіраўніцтва пасля звестак ад Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця. На датацыі і крэдыты «вялікай сястры» разлічваць ужо не даводзіцца. А значыць, трэба шукаць іншыя рэсурсы.**

Раней мы пісалі, што Расія не выдае Беларусі крэдыт у 600 мільёнаў долараў, які мы просім у яе з лютага. На тыдні стала вядома, што краіна не атрымае і апошні транш крэдыту ад ЕФСР у 200 мільёнаў тых жа «зялёных». Маўляў, «тэрміны даступнасці крэдыту прайшлі». Насамрэч, па меркаванні экспертаў, Расія, якая з'яўляецца галоўным донарам ЕФСР, звязвае абмеркаванне фінансавых пытанняў з праграмай паглыблення інтэграцыі паміж краінамі.

Давядзецца ашчаджаць. Першы крок да «ашчаднай» палітыкі, падобна, зроблены. Прынамсі, яго пазначыў Аляксандр Рыгоравіч. У час нарады па пытаннях процідзеяння распаўсюджванню наркотыкаў і прафілактыкі наркаманіі ён прайшоўся па Міністэрстве інфармацыі. Паводле кіраўніка дзяржавы, нам патрэбная моцная антынаркатычная прапаганда па ўсіх напрамках, і на яе неабходна кінуць усе рэсурсы — ад традыцыйных СМІ да сацсетак.

Ён, урэшце, адзначыў, што наркаманамі ў большасці выпадкаў становяцца маладыя людзі, якія «не ўсведамляюць да канца небяспеку наркотыкаў». А таму «дзейнічаць неабходна на апярэджанне па лініі ўстаноў адукацыі, аховы здароўя і, вядома, перш за ўсё сям'і. Важнае значэнне мае ўдасканаленне антынаркатычнай прапаганды з улікам інтарэсаў моладзі. Нароўні з традыцыйнымі СМІ тут варта актыўна падключаць сацыяльныя сеткі і іншыя віды папулярных у падлеткаў інтэрнэт-рэсурсаў», — сказаў Лукашэнка.

І адзначыў, што Мінінфармацыі ў гэтым пытанні практычна бяздзейнічае. «У гэтым плане дзейнасць Міністэрства інфармацыі зараз малапрыкметная. Я наогул нешта не бачу гэтага міністэрства. Можа, яно нам не трэба?» — задаўся пытаннем кіраўнік дзяржавы.

Пра тое, што Мінінфарм нам не трэба, даўно ўжо кажуць медыя-аналітыкі і журналісцкая супольнасць. Бо гэтае міністэрства фактычна дублюе іншыя дзяржаўныя органы. Напрыклад, каб зарэгістраваць СМІ, трэба спачатку зарэгістраваць фірму з правам выдавецкай дзейнасці — а навошта гэтая падвойная рэгістрацыя? Вынясенне папярэджанняў СМІ і прыпыненне іх выхаду ў выпадку парушэння заканадаўства — гэта пракуратура і суд. Разборам скаргаў грамадзян на СМІ цалкам можа займацца нейкая назіральная камісія. Ад 2009 года пры ўрадзе створана грамадская каардынацыйная рада ў сферы масавай інфармацыі — чым яна займаецца?

Вось і атрымліваецца «лішні» Мінінфарм.

На тыдні таксама адзначылася міністр працы і сацыяльнай абароны Ірына Касцевіч. У праграме «Галоўны эфір» на БТ яна агучыла некалькі цікавых лічбаў. Паводле яе дадзеных, зарэгістраванае беспрацоўе ў гэтым годзе трымаецца на ўзроўні 0,3%. Сярэдні тэрмін пошуку працы — сем месяцаў, у той час як у мінулым годзе было амаль 8 месяцаў. Каля 20% беспрацоўных шукалі працу больш за год.

Па словах Ірыны Касцевіч, у дзяржаўную службу занятасці штогод звяртаецца каля 200 тысяч чалавек, а за першае паўгоддзе ў краіне было створана больш за 30 тысяч працоўных месцаў. У той жа час напружанай лічыцца сітуацыя на рынку працы ў 53 рэгіёнах Беларусі.

**Цікава, а раней у школе не вучылі, кажучы моваю гэтых запісак, «карыстацца мовай ва ўсіх відах маўленчай дзейнасці»? Ці «граматычна правільна ствараць і афармляць свае вусныя і пісьмовыя паведамленні»? Чым раней займалася Мінадукацыі? Можа, і яно не патрэбнае?**

А зараз — крыху матэматыкі. Практыкаванне першае. У Беларусі ўсяго 118 раёнаў. Напружаная сітуацыя з працай у 53 з іх. Ці можам мы сказаць, што складанасці з пошукам працы — амаль у палове краіны?

Практыкаванне другое. Згодна з Белстатам, эканамічна актыўнае насельніцтва краіны ў верасні 2019 года складала 4 мільёны 341 тысячу 300 чалавек. Для роўнасці возьмем лічбу ў 4 мільёны 350 тысяч. Адпаведна, 1% — гэта 43500. Тыя 200 тысяч чалавек, што звяртаюцца штогод у цэнтры занятасці — гэта 4,59% ад эканамічна актыўнага насельніцтва. Пры гэтым «зарэгістраванае беспрацоўе» ў нас на ўзроўні 0,3%. І нельга казаць, што той, хто звярнуўся ў службу занятасці, адразу знаходзіць працу і вылятае са спісу «лайдакоў» — сама Касцевіч сказала пра тэрмін пошуку працы ў 7–8 месяцаў...

Такім чынам, можа быць нам і Міністэрства працы разагнаць? Хаця б да таго часу, пакуль міністарка і яе супрацоўнікі з матэматыкай пасябруюць?

Ім, напэўна, дапаможа Міністэрства адукацыі. Там якраз набыла моц пастанова аб зацвярджэнні навучальных праграмаў. Паведамляецца, што змены закрануць праграмы для вучняў з 5-га па 11-ы клас, больш за ўсё нованўядзенняў — для 9-класнікаў.

Да кожнай вучэбнай праграмы прыводзіцца тлумачальная запіска. Напрыклад, па рускай мове яна такая: «Мэта навучання рускай мове — сфарміраваць у вучняў сістэму ведаў пра мову і гаворкі; навучыць іх карыстацца мовай ва ўсіх відах маўленчай дзейнасці (чытанне, слуханне, пісьмо, маўленне) і ў абраных сферах прымянення мовы; развіваць інтэлектуальную, духоўна-маральную, камунікатыўную, грамадзянскую культуру вучняў», — гаворыцца ў дакуменце.

Не менш цікавая і запіска для мовы беларускай: «Вывучэнне беларускай мовы не можа абмяжоўвацца запатрабаваннямі асобы ў лінгвістычных ведах, азнаямленнем вучняў з моўнымі адзінкамі і законамі. Абавязак установаў адукацыі — навучыць сваіх выхаванцаў карыстацца беларускім словам, дапамагчы ім авалодаць маўленчай этыкай і культурай. Вучням трэба даць такую лінгвістычную адукацыю, якая дапаможа ім не толькі граматычна правільна ствараць і афармляць свае вусныя і пісьмовыя паведамленні, але і выбіраць з багатага арсеналу выяўленчых моўных сродкаў самыя трапныя, самыя дасканалыя і пераканальныя. У сувязі з гэтым неабходна штодзённа ўдасканальваць маўленчую практыку вучняў, якая наладжваецца ў форме гутаркі, пісьма, чытання, публічных выступленняў, слухання радыё- і тэлеперадач, вучэбных лекцый, дакладаў, паведамленняў».

Цікава, а раней у школе не вучылі, кажучы моваю гэтых запісак, «карыстацца мовай ва ўсіх відах маўленчай дзейнасці»? Ці «граматычна правільна ствараць і афармляць свае вусныя і пісьмовыя паведамленні»? Чым раней займалася Мінадукацыі? Можа, і яно нам не патрэбнае, калі толькі зараз «скарэктавала праграму» для навучання відавочным рэчам?

Цікава, колькі можна зэканоміць на трох міністэрствах? І колькі мы будзем ашчаджаць, калі пашукаем яшчэ што-небудзь непатрэбнае?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Віталь Рымашэўскі



**Сустаршыня Беларускай хрысціянскай дэмакратыі цалкам засвоіў прыёмы палітычнага тролінгу. Ён падараваў насоўку дзеючаму дэпутату Палаты прадстаўнікоў Ігару Марзалюку.**

Гэта адбылося 29 кастрычніка ў Магілёве, дзе Рымашэўскі ў якасці даверанай асобы Алега Аксёнава прыняў удзел у запісе тэледэбатаў з Ігарам Марзалюком. Паводле Рымашэўскага, Марзалюк распавядаў, як працаваў гэты тэрмін дэпутацтва, але так і не паведаміў, чаму галасаваў за антынародныя законапраекты.

Падчас дэбатаў Віталь Рымашэўскі таксама падарыў яму насоўку, «каб было чым выціраць слёзы падчас выступаў Аляксандра Лукашэнкі». Тое, як Марзалюк са слязьмі на вачах слухаў Лукашэнку ў красавіку гэтага года, у інтэрнэце пераватрываліся ў мем.

Але сам Рымашэўскі лічыць, што дэбаты да тэлеэфіру не дойдуць. «Думаю, што гэтыя дэбаты могуць зняць з эфіру, бо спадар Марзалюк быў вельмі засмучаны. Пасля эфіру тлумачыў, што гэта былі не слёзы захаплення ад прамовы Лукашэнкі, а слёзы захаплення ад таго, што трэба бараніць незалежнасць, пра што казаў кіраўнік Беларусі. Я ніводным словам не парушаў закон аб правядзенні выбараў, усё было ў рамках заканадаўства, але думаю, што Марзалюк зробіць усё, каб гэтыя дэбаты не пайшлі ў эфір», — паведаміў Рымашэўскі.

## Зянон Пазьняк



**Самы вядомы беларускі палітэмігрант і лідар КХП-БНФ з-за мяжы звярнуўся ў беларускую Генпракуратуру наконт антызаконных дзеянняў Лукашэнкі.**

Ініцыятыву Пазьняка падтрымалі чальцы яго партыі Юрась Беленькі і Сяргей Папкоў. Яны просяць пракуратуру і Следчы камітэт расследаваць словы Лукашэнкі пра тое, што «кадравы рэзерв» кіраўніка дзяржавы ў колькасці 850 чалавек надзелены пэўнымі паўнамоцтвамі абароны перад законам і валодае персанальным імунітэтам. І што без асабістага дазволу Лукашэнкі «іх нельга затрымліваць, арыштоўваць».

Дзеянні Лукашэнкі, па меркаванні заяўнікаў, груба парушаюць Канстытуцыю Беларусі, а таксама ўтрымліваюць прыкметы грубага выкарыстання ўлады ў асабістых інтарэсах і перавышэння службовых паўнамоцтваў (артыкул 426 Крымінальнага Кодэкса Беларусі).

«Гэты тэкст можа паслужыць прыкладам для іншых заяваў, лістоў і зваротаў у органы пракуратуры і следства. Пішыце. Гэта трэба рабіць», — пракаментаваў ініцыятыву Зянон Пазьняк.

## Святлана Алексіевіч



**Нядаўна абраная віцэ-прэзідэнткай Міжнароднага ПЭН-клуба лаўрэатка Нобелеўскай прэміі па літаратуры ўзначаліла Беларускі ПЭН-цэнтр.**

Такое рашэнне было прынятае 26 кастрычніка на агульным сходзе грамадскага аб'яднання. У пэўным сэнсе абранне старшынёй Алексіевіч стала кампрамісам пасля скандалу з ПЭНам, што быў выкліканы лістом Паўла Севярынца, якога выключылі з арганізацыі за няспплату ўнёскаў. Севярынец пабачыў у сваім выключэнні прыкметы «культурнага марксізму» і ганенняў на хрысціян з боку прыхільнікаў ЛГБТ-руху.

З'езд таксама ўзнавіў сяброўства Севярынца ў арганізацыі, чым была незадаволеная частка дэлегатаў — яны нават пакінулі залу пасяджэння. Але сяброўства Севярынца ў ПЭНе пратрывала нядоўга — праз тры дні ўжо новаабраная Рада аб'яднання зноў выключыла яго з арганізацыі.

Нагадаем, што Беларускі ПЭН-цэнтр быў створаны ў 1989 годзе. У якасці грамадскага аб'яднання зарэгістраваны Міністэрствам юстыцыі ў лістападзе 1990 года, перарэгістраваны ў кастрычніку 1999-га. З 1990-га з'яўляецца часткай Міжнароднага ПЭН-клуба — сусветнага аб'яднання прафесійных літаратараў, створанага ў 1921 годзе для пашырэння супрацоўніцтва прадстаўнікоў творчых прафесій і абароны іх правоў. У 2016 годзе Міжнародны ПЭН-клуб налічваў больш за 140 аўтаномных прадстаўніцтваў у розных краінах свету.

# Расійскі ўплыў і кантроль

Дзяніс ІВАШЫН




**Расійская амбасада ў Беларусі не толькі займаецца падтрымкай дыпламатычных і гандлёвых зносінаў, культурніцкім і гуманітарным абменам. Але і валодае значным патэнцыялам для здзяйснення знешняй выведкі спецслужбамі і ёсць адным з асноўных рэалізатараў расійскай стратэгіі «мяккай сілы» ў дачыненні да Беларусі.**

Матэрыялы расследавання пададзеныя ў выглядзе справаздачы ў некалькіх частках. У першай — аналітычная звесткі пра прадстаўнікоў сілавога блоку расійскай дыпламатычнай місіі ў Беларусі і аналіз біяграфіі амбасадара Расіі ў Беларусі Дзмітрыя Мезенцава.

Дыпламатычныя зносіны Беларусі з Расійскай Федэрацыяй былі ўсталяваныя ў чэрвені 1992 года. Ад самага пачатку дзейнасці амбасада РФ займела ўсе мажлівасці для арганізацыі легальнай рэзідэнтуры расійскіх спецслужб. Першым яе кіраўніком і практычна заснавальнікам стаў падазраваны Аўстралійскай службай бяспекі і выведкі (ASIO) у шпіянажы дыпламат Ігар Сапрыкін, які на той момант ужо меў 30-гадовы стаж дыпламатычнай службы і досвед працы ў Вялікабрытаніі, ЦАР, Аўстраліі і Бангладэш. Час службы Сапрыкіна прыпадае на абранне прэзідэнтам Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, правядзенне рэферэндумаў 1995 і 1996 гадоў, пачатак русіфікацыі і інтэграцыі з Расіяй.

Вайскова-тэхнічны і палітычны шпіянаж, дыверсійную дзейнасць пад прыкрыццём расійскіх амбасадаў здзяйсняе сёння трыяда службаў знешняй выведкі Расійскай Федэрацыі — Галоўнае ўпраўленне (да 2010 года ГРУ, далей у тэксце выкарыстоўваецца гэтая абрэвіятура) Генштабу Узброеных сілаў (УС) РФ, Служба знешняй выведкі (СЗВ), у якую трансфармавалася ў 1992 годзе Першае галоўнае ўпраўленне КДБ СССР, і ФСБ. Як правіла, у складзе дыпламатычнай місіі супрацоўнікі гэтых спецслужб з'яўляюцца дарадцамі, сакратарамі альбо гандлёвымі прадстаўнікамі расійскіх і замежных кампаніяў і арганізацыяў, супрацоўнікамі вайсковага аташату. Іх галоўныя задачы — збор, апрацоўка, аналіз дадзеных, рэгулярныя справаздачы, вярбоўка агентуры і сувязь з агентурным сецівам. Мэтамі вярбоўкі аказваюцца перадусім прадстаўнікі вайскова-палітычнага кіраўніцтва дзяржавы, рэгіянальнай наменклатуры, бізнес-асяроддзе і ўплывовыя персоны грамадзянскай супольнасці ў краіне прызначэння.

Кадравых супрацоўнікаў расійскага дыпкорпусу рыхтуюць Дыпламатычная акадэмія МЗС РФ, Маскоўскі дзяржаўны інстытут міжнародных адносінаў (МДІМА, рус. — МГИМО), Маскоўскі дзяржаўны ўніверсітэт, Вышэйшая школа эканомікі, Вайскова-дыпламатычная акадэмія (так званая «кансерваторыя» ГРУ) і іншыя ВНУ.

Паводле дадзеных заходніх службаў бяспекі, колькасць кадравых супрацоўнікаў расійскай знешняй выведкі можа сягаць да 30 працэнтаў ад складу дыпкорпусу. СЗВ займаецца пераважна палітычнай выведкай і здзяйсняе ахову супрацоўнікаў амбасады. Адным з асноўных напрамкаў дзейнасці ФСБ і ГРУ за мяжой, апроч вайсковай выведкі, ёсць вядзенне інфармацыйнай вайны, якая ўключае дэзінфармацыю, інфармацыйна-псіхалагічныя аперацыі, інфармацыйныя атакі і іншыя дэструктыўныя дзеянні.

Адным з адыёзных кіраўнікоў дыпламатычнай місіі РФ у Беларусі быў шчыльна звязаны з ФСБ Міхаіл Бабіч, які за восем месяцаў сваёй дзейнасці паспеў заслужыць мянушку «беларускага генерал-губернатара». Пасля шэрагу скандалаў і адклікання яго з пасады новым Надзвычайным і Паўнамоцным амбасадарам РФ у Беларусі 30 красавіка 2019 года прызначаны Дзмітрый Мезенцаў.


**Дзмітры Мезенцаў.** Фота kp.ru

У траўні 2019 года МЗС Беларусі выдала агрэман на прызначэнне Мезенцава, які ў чэрвені распачаў дыпламатычную дзейнасць. Прадстаўнікі экспертнай супольнасці часта называюць яго «другім Сурыкавым» праз нібыта канфармісцкі і неканфліктны характар. Аднак яго постаць на сённяшнім этапе паўнавартаснага разгортвання так званага «Саюзнога гасударства» (далей — СГ) відавочна адыгрывае адну з ключавых роляў.

Дзмітрый Фёдаравіч Мезенцаў нарадзіўся ў 1959 годзе ў Ленінградзе, у 1981-м скончыў Ленінградскі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту. З 1984 па 1990 гады служыў у чыгуначных войсках, у органе армейскага друку. Падчас вайсковай службы стаў чальцом Саюза журналістаў СССР, а ў 1990-м яго абралі ў Ленінградскую гарадскую раду. Дэпутацкая кар'ера Мезенцава трывала да 1993 года.

Мезенцаў — прадстаўнік так званай «піцерскай» групы расійскай палітычнай эліты, шчыльна звязанай з Уладзімірам Пуціным. Вызначальны этап яго біяграфіі — перыяд з 1991 па 1996 гады, калі ён ачольваў Камітэт па друку і СМІ мэрыі Санкт-Пецярбургу, бо менавіта тады ён стаў падначаленым і калегам Пуціна. У 1996 годзе Мезенцава перавялі ў Маскву, дзе ён працаваў намеснікам старшыні Дзяржаўнага камітэта па друку. Праз два гады ён абараніў дысертацыю на тэму «Псіхалогія ўплыву СМІ на фармаванне палітычных установак асобы» і атрымаў навуковую ступень кандыдата псіхалагічных навук. У 1999-м стаў дактарантам МДІМА і прэзідэнтам Фонду «Центр стратегических разработок», які, паводле пэўнай інфармацыі, ён і заснаваў. Менавіта гэты фонд рыхтаваў праграму першага прэзідэнцкага тэрміну Уладзіміра Пуціна.

З 2002 года Мезенцаў стаў чальцом Савету Федэрацыі (СФ) у якасці прадстаўніка ад Іркуцкай вобласці. З 2004 па 2009 гады — намеснік старшыні СФ Сяргея Міронава, а з 2005 па 2009-ты ачольваў у СФ камісію па інфармацыйнай палітыцы. З 2006 года Мезенцаў спалучаў сенатарства з працай у Шанхайскай арганізацыі супрацы (ШАС), у якой да 2013-га ачольваў кіраванне Дзелавога савету, а з 2013 па 2015-ты выконваў функцыі генеральнага сакратара гэтай арганізацыі. Апроч гэтага, у 2009 годзе Мезенцаў ачоліў кафедру палітычнай псіхалогіі Санкт-Пецярбургскага дзяржаўнага ўніверсітэта і стаў губернатарам Іркуцкай вобласці.

Цалкам мажліва, спалучэнне шматлікіх паўнамоцтваў і абавязкаў спрычынілася да таго, што Мезенцава пачалі заслужана крытыкаваць, а ў падначаленай яму Іркуцкай вобласці ён займеў рэпутацыю вельмі слабага гаспадарніка. Значнае пагаршэнне сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў рэгіёне непасрэдна адбілася на рэйтынгу галоўнай палітычнай прапрэзідэнцкай сілы, рэгіянальным лідарам якой і быў губернатар Мезенцаў. На парламенцкіх выбарах 2011-га партыя «Единая Россия» атрымала менш за 35% і згубіла свае пазіцыі ў шэрагу ключавых гарадоў Іркуцкай вобласці, з якіх быў сфармаваны так званы «чырвоны пояс», што апынуўся пад кантролем КПРФ.

Правал «Единой России» на парламенцкіх выбарах у падначаленай Мезенцаву Іркуцкай вобласці быў фінальным акордам фарміравання яго негатыўнай палітычнай рэпутацыі. З адмоўнага боку Мезенцаў праявіў сябе і падчас прэзідэнцкай кампаніі 2012 года, калі было ўхвалена рашэнне зрабіць яго спарынг-партнёрам Пуціна. У выніку фіксацыі шматлікіх фальсіфікацый на этапе збору подпісаў і недахопу дастатковай колькасці сапраўдных подпісаў ЦВК была вымушана адмовіць Мезенцаву ў рэгістрацыі яго кандыдатуры. Пасля гэтага Мезенцаў падаў у адстаўку «па ўласным жаданні».

Цікава, што ў 2016 годзе ён вярнуўся ў Савет Федэрацыі ў якасці прадстаўніка ад уж Сахалінскай вобласці. З 2017 года і да бягучага свайго прызначэння ачольваў камітэт СФ па эканамічнай палітыцы. Асабліва варта зазначыць, што напрыканцы 2018 года Мезенцава ўключылі ў склад супольнай расійска-беларускай групы па інтэграцыі. Менавіта гэта магло стаць ключавым чыннікам яго прызначэння амбасадарам у Беларусь.

Такім чынам, Дзмітрый Мезенцаў з'яўляецца адмыслоўцам у інфармацыйнай сферы, прафесійна займаецца палітычнай псіхалогіяй, а тэма яго дысертацыі непасрэдна закранае пытанні інфармацыйна-псіхалагічнага ўздзеяння на насельніцтва з дапамогай СМІ. Эфектыўнасць Мезенцава ў гэтым можа перакрыць яго патэнцыйныя хібы падчас кіравання расійскай дыпмісіяй у Беларусі. Апроч таго, выведвальныя групы расійскіх спецслужбаў, якія могуць карыстацца паўнавартасным прыкрыццём амбасады РФ у Беларусі, відавочна не падначаленыя Мезенцаву, а таму застрахаваныя ад яго мажлівых правалаў у адміністрацыйнай дзейнасці.

Паказальна, што з моманту прызначэння Мезенцава амбасадарам супраць вышэйшага вайскова-палітычнага кіраўніцтва Беларусі, а таксама журналістаў і прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці актывізавалася вядзенне інфармацыйных спецаперацый з боку расійскіх медыярэсурсаў, якія можна разглядаць як элементы паўнавартаснай інфармацыйнай вайны. Расіі неабходнае інфармацыйнае забеспячэнне разбудовы СГ, а расійскаму дыпрадстаўніцтву ў нашай краіне, цалкам мажліва, нададзеная роля асноўнага каардынатара і карэктавальніка інфармацыйна-псіхалагічных аперацый супраць Беларусі, колькасць якіх самым бліжэйшым часам будзе прагназавана павялічвацца.

За пяць месяцаў пасля пачатку працы Дзмітрыя Мезенцава ў дыпламатычны склад амбасады РФ у Беларусі былі ўведзеныя больш за 10 новых супрацоўнікаў. Частку з іх можна ўмоўна назваць чальцамі каманды Мезенцава. Сярод іх — першы сакратар Дзмітры Булгакаў, які быў памочнікам Мезенцава ў ШАС, а да гэтага працаваў трэцім сакратаром Амбасады РФ у КНР; трэці сакратар Мікалай Смятаннікаў, які быў першым намеснікам кіраўніка апарату губернатара Мезенцава, а з 2013 па 2019 гады каардынаваў і здзяйсняў кантроль за выкананнем даручэнняў Мезенцава ў ШАС; старшы дарадца Пётр Фралоў, які ачольваў аддзел ШАС дэпартаменту азіяцкай і ціхаакіянскай супрацы МЗС РФ, і іншыя дыпламаты.

Адным з ключавых напрамкаў дзейнасці ШАС з'яўляецца сфера бяспекі. У межах арганізацыі створаныя і функцыянуюць рэгіянальныя цэнтры антытэрарыстычнай структуры. Здзяйсняецца ўзаемадзеянне і супраца ў пытаннях памежнай бяспекі. Усё гэта — непасрэдны аб'ект дзейнасці спецслужб, якія, безумоўна, маюць сваіх прадстаўнікоў і ў Шанхайскай арганізацыі супрацы. Таму да ўсіх выхадцаў з гэтай арганізацыі павінна быць асаблівая ўвага.

Нягледзячы на правядзенне актыўнай замены дыплама-


**Штаб Уладзіміра Пуціна на яго першых прэзідэнцкіх выбарах, 2000 год (Мезенцаў чацвёрты леваруч).** Фота meduza.io

# у Беларусі: рэзідэнтура



Трэці сакратар Мікалай Смятаннікаў і старшы дарадца Пётр Фралоў

тычнага складу, большая частка расійскай амбасады (а гэта не менш за 30 чалавек), дагэтуль прадстаўленая людзьмі з каманды колішняга амбасадара Аляксандра Сурыкава. Група Міхаіла Бабіча (прыкладна 15 чалавек) таксама з'яўляецца досыць магутнай і да гэтага часу, але паступова губляе ключавых прадстаўнікоў. Адным з такіх стаў Аляксей Сухаў, які, паводле атрыманай «Новым Часам» інфармацыі ад прэс-цэнтра расійскай амбасады, завяршыў сваю дыпламатычную камандзіроўку ў Беларусі і працуе зараз у Маскве.

Афіцэр ГРУ Аляксей Сухаў, прызначаны дарадцам-пасланнікам, па-сутнасці, намеснікам амбасадара і другой асобай у амбасадзе, больш за год працаваў у Беларусі, якую ведае яшчэ з савецкіх часоў.



Аляксей Сухаў. Фота 73online.ru

Аляксей Пятровіч Сухаў нарадзіўся ў 1962 годзе ў Чалябінску. У 1983-м, пасля заканчэння Чалябінскай вышэйшай танкавай каманднай вучэльні, быў накіраваны ў Беларускую вайсковую акругу, у якой з 1983 па 1987 гады служыў спачатку камандзірам танкавага ўзводу, а потым танкавай роты. Відавочна, Сухаў можа быць знаёмы з усімі асаблівасцямі Беларусі ў якасці патэнцыйнага тэатру ваенных дзеянняў для расійскай арміі. У 1991-м ён скончыў Вайскова-дыпламатычную акадэмію (ВДА), якая штогод выпускае прыблізна сотню элітных выведнікаў, сярод якіх нямала будучых шпіёнаў пад легендай дыпламатаў і вайсковых аташэ, а таксама супрацоўнікаў вайсковай выведкі, што працуюць на нелегальным становішчы. Пасля заканчэння ВДА і аднаго года практычнай дзейнасці ў ГРУ ў 1992 годзе, Аляксей Сухаў быў накіраваны ў амбасаду Расіі ў Кітаі — памочнікам вайсковага аташэ. Пад прыкрыццём гэтай пасады і дыпламатычных правоў афіцэры ГРУ маюць усе магчымасці для здзяйснення вайсковай выведкі.

У 1995 годзе Сухава перавялі ў цэнтральны апарат ГРУ, дзе ён ачольваў групу Упраўлення. Праз два гады ён вярнуўся на працу ў расійскую дыпмісію ў Кітаі як старшы памочнік вайсковага аташэ. Пасля заканчэння ў 2002 годзе Вайсковай акадэміі Генштабу УС РФ Сухава прызначылі намеснікам начальніка накіравання ГРУ. З 2004 па 2008-мы яго нанова накіравалі ў Кітай ужо ў якасці аташэ па пытаннях абароны пры расійскай амбасадзе. Кіраўнікамі вайсковага аташату, як правіла, з'яўляюцца дасведчаныя выведнікі, галоўнай функцыяй якіх ёсць кіраванне ў краіне прызначэння вайсковай выведвальнай дзейнасцю.

З 2008 па 2009-ты Сухаў выконваў папярэдняя функцыі намесніка начальніка кіравання ГРУ. Да 2010 года ён кіраваў упраўленнем і часова выконваў абавязкі начальніка Галоўнага ўпраўлення міжнароднай вайсковай супрацы Міністэрства абароны РФ. З 2010 па 2011 гады працаваў у якасці рэферэнта Дырэктара Федэральнай службы РФ па кантролі за абаротам наркотыкаў, якая таксама здзяйсняе выведку ў Афганістане і Цэнтральнай Азіі. Паводле ўказа Дзмітрыя Мядзведзева (на той час кіраўніка Расіі) яму было нададзенае адмысловае званне генерал-маёра паліцыі.

Аднак на сваёй пасадзе Сухаў знаходзіўся нядоўга, з сакавіка 2011 года яго прызначылі дырэктарам Дэпартамента міжнароднай супрацы Міністэрства энергетыкі Расіі, які ён ачольваў да 2012 года. Са студзеня 2012 года Сухаў — памочнік і намеснік паўнамоцнага прадстаўніка прэзідэнта ў Прыволжскай Федэральнай акрузе (ПФА). Тую пасаду займаў Міхаіл Бабіч, які знаходзіўся на ёй усяго толькі месяц. У абавязкі Аляксея Сухава ўваходзіла куратарства ўнутранай палітыкі па лініі адміністрацыі прэзідэнта ў рэгіёнах ПФА і каардынацыя дзейнасці сілавых структур — паліцыі, следчых органаў і пракуратуры. Яго перавод у групу Бабіча ў Мінск быў цалкам заканамерным і лагічным.

На працягу дзейнасці на тэрыторыі Беларусі (больш за год) Аляксей Сухаў меў усе магчымасці не толькі для пераводу выведвальна-агентурнай дзейнасці на новы ўзровень, але і для праўдзення ўсіх неабходных актыўных мерапрыемстваў у межах забеспячэння рэактывізацыі разбудовы «Саюзного Государства».

Паказальна, што Сухаў узнагароджаны медалямі «За баявыя заслугі», «За адвагу», ордэнам «За ваенныя заслугі», якія, пэўна, сведчаць, што ён мае досвед удзелу ў баявых дзеяннях. На жаль, у гэтым пераліку можа з'явіцца чарговая ўзнагарода, аднак ужо па выніках яго дзейнасці ў нашай краіне.

Амаль цэлы год на тэрыторыі Беларусі ў складзе групы Бабіча пад прыкрыццём статусу першага сакратара амбасады РФ працаваў і Андрэй Клінцэвіч, сын вядомага расійскага сенатара Франца Клінцэвіча. Да пераводу ў Беларусь Клінцэвіч-малодшы ачольваў дэпартамент па рэалізацыі грамадскіх праектаў апарату паўнамоцнага прадстаўніка прэзідэнта РФ Бабіча ў ПФА. Ён таксама курыраваў вайскова-патрыятычныя праграмы «Молодой Гвардии Единой России» — моладзевай структуры найбуйнейшай прапрэзідэнцкай партыі суседняй краіны. У Беларусі ён не толькі займаўся дыпламатычнай дзейнасцю, але і (да нядаўняга часу) выконваў абавязкі кіраўніка Прадстаўніцтва фонду «Россотрудничество». Здзяйсняў куратарства беларускіх кадэцкіх вучэльняў і спрабаваў забяспечыць шчыльнае ўзаемадзеянне беларускіх і расійскіх кадэтаў.



Андрэй Клінцэвіч

Андрэй Францавіч Клінцэвіч нарадзіўся ў 1981 годзе ў горадзе Алітус (Літва). У 1998-м скончыў Цвярскую сувораўскую вайсковую вучэльню, а ў 2003 годзе — Вайсковы ўніверсітэт Міністэрства абароны РФ. З 2003 па 2006-ты служыў у 45-м асобным палку СпН Вайскова-паветраных сілаў УС РФ (з 2014 года разгорнуты ў брыгаду). Цікава, што вайскоўцы гэтага палка, якія ўдзельнічалі ў ваеннай агрэсіі супраць Грузіі ў 2008 годзе, перадавалі свой досвед інструктарам мінскага прарасійскага парамілітарнага фарміравання «Казачий Спас», якія, у сваю чаргу, здзяйсняюць агульнафізічную, агнявую, шыхтавую, тапаграфічную і медычную падрыхтоўку патэнцыйных баевікоў ужо на тэрыторыі Беларусі.

Андрэй Клінцэвіч, як і яго бацька, удзельнічаў у аперацыі захопу Крыма ў 2014 годзе, за што абодва ўзнагароджаныя Ганаровай граматай прэзідэнта РФ, а ў спісе ўзнагароджаных знаходзяцца на трэцяй і першай пазіцыях адпаведна.

У жніўні 2017 года СБУ раскрыла інфармацыю пра падрыхтоўку Федэральнай службай бяспекі РФ спецаперацыі па інсцэніраванні тэрактаў у Маскве, Курчатаве, Тальяці і Курску на аб'ектах крытычнай інфраструктуры, у тым ліку ў атамнай энергетыкі. У выкананні гэтых тэрактаў ФСБ планавала абвінаваціць трох грамадзян Украіны, колішніх удзельнікаў АТА, якія выехалі ў Расію на заробкі. Паводле сведчанняў начальніка СБУ Васіля Грыцака, здзяйсненне тэрактаў павінна было дэстабілізаваць сітуацыю ў Расіі і стаць падставай для пачатку паўнавартаснай ваеннай кампаніі супраць Украіны. Згодна з інфармацыяй кіраўніка апарата начальніка СБУ Ігара Гуськова, куратарства гэтай аперацыі здзяйснялі кадравыя супрацоўнікі расійскіх спецслужб, у прыватнасці, блізкі сваяк чальца камітэту ў абароне і бяспецы Савета Федэрацыі РФ. Паводле інфармацыі ўкраінскага тэлеканалу «Прямий», гэтым куратарам, магчыма, з'яўляецца менавіта Андрэй Клінцэвіч, бацька якога Франц Клінцэвіч у 2017 годзе быў першым намеснікам камітэту па абароне і бяспецы СФ РФ.

Паказальна, што гэтай пасады Клінцэвіч-старэйшы быў пазбаўлены менш чым праз месяц пасля раскрыцця інфармацыі пра свайго сына. Андрэй Клінцэвіч, паводле інфармацыі ўкраінскіх СМІ, можа з'яўляцца кадравым супрацоўнікам ГРУ з мянушкай «Гога», мог выконваць спецзаданні на часова акупаваных тэрыторыях Украіны. Ён мае значны патэнцыял і досвед, якім расійскія спецслужбы могуць скарыстацца і для ўчынення дыверсій і правакацый ужо ў Беларусі.

Цікава, што Андрэй Клінцэвіч, як і Аляксей Сухаў, працягваў сваю працу нават пасля адклікання Міхаіла Бабіча з пасады амбасадара. Дагэтуль у Беларусі працягваюць працаваць некалькі дыпламатаў, якія, паводле атрыманай інфармацыі, магчыма з'яўляюцца дзеючымі афіцэрамі ГРУ і з'яўляюцца прадстаўнікамі, умоўна, «групы Аляксандра Сурыкава».

З 2016 года сваю рэзідэнтуру ў амбасадзе РФ у Беларусі, меркавана, мае дарадца Марэсеў Уладзімір Уладзіміравіч, 1971 года нараджэння, выпускнік Свярдлоўскай сувораўскай вайсковай вучэльні 1989 года. Паводле дадзеных украінскага Цэнтру «Міратворац» і звестак, атрыманых у выніку зліву інфармацыі, ён магчыма з'яўляецца дзеючым кадравым супрацоўнікам ГРУ. Цікава, што разам з іншым кадравым «грушнікам» Канстанцінам Гусевым Марэсеў быў афіцыйным назіральнікам ад амбасады Расіі ў так званай выбарчай кампаніі ў мясцовыя Саветы РБ у 2018 годзе.

Канстанцін Віктаравіч Гусеў выконвае функцыі дарадцы з 2017 года. Вядома, што ён нарадзіўся ў 1968 годзе. Паводле дадзеных Цэнтру «Міратворац», магчыма з'яўляецца дзеючым кадравым супрацоўнікам ГРУ Генштабу УС РФ. Яго імя фігуруе таксама ў спісе кадравых супрацоўнікаў ГРУ, якія працуюць пад прыкрыццём на разнастайных пасадах як у РФ, так і ў іншых краінах.

Масавы зліў інфармацыі з раскрыццём супрацоўнікаў ГРУ адбыўся ў ліпені 2014 года ў выніку ведамаснай вайны паміж спецслужбамі РФ.

Цікава, што Канстанцін Гусеў афіцыйна выконваў функцыі назіральніка ад РФ на выбарах прэзідэнта Украіны ў 2010 годзе, а таксама на так званых выбарах у мясцовыя Саветы дэпутатаў РБ у 2018 годзе. Ён быў першым сакратаром амбасады РФ ва Украіне яшчэ да пачатку расійскай ваеннай агрэсіі, працаваў, пераважна, па рэлігійных пытаннях. Потым быў пераведзены дарадцам у амбасаду ў Малдове.

Супрацоўнікі ГРУ пад прыкрыццём дыпламатычнага статусу маюць выдатную магчымасць непасрэдна кантактаваць з вайскова-палітычным кіраўніцтвам Беларусі. З улікам высокай імавернасці наяўнасці патэнцыйных агентаў уплыву Расіі на ўсіх узроўнях дзяржаўнага кіравання Беларусі, вярбоўка новых дзяржаўных функцыянераў для іх відавочна не ёсць праблемай. Менавіта ўнутраная падрыхтоўка і актыўная агентурная дзейнасць расійскіх спецслужб у сістэме сілавых ведамстваў Аўтаномнай Рэспублікі Крым згулялі ключавую ролю ў ваеннай аперацыі па захопу ўкраінскай паўвыспы.

У наступнай частцы мы працягнем раскрыццё звестак пра прадстаўнікоў сілавога блоку расійскай амбасады ў Беларусі, а таксама непасрэдных рэалізатараў расійскай стратэгіі «мяккай сілы» ў нашай краіне.




Байцы парамілітарнага фарміравання «Казачий Спас» у Беларусі

# Булінг у школе — што за

Таццяна ГОВАР

**Бывае, што вучань можа стаць аб'ектам кпінаў і адкрытых здзекаў з боку аднакласнікаў. І гэта можа доўжыцца гадамі. Для вызначэння гэтага зараз ужываюць слова «булінг».**



Звычайна адзін або некалькі чалавек у класе становяцца ініцыятарамі актыўнага непрымання свайго аднакласніка. Яны абіраюць сабе ахвяру і пачынаюць яе дражніць, задзіраць, браць рэчы без запыту, ігнараваць, абзываць, дэманстратыўна не прымаць у гульню і гэтак далей. Гэты вучань становіцца ізгоем, а тыя, хто ініцыюе цкаванне, — завадатарамі. Завадатары бываюць настолькі ўпэўненыя ў сваёй перавазе, што лічаць сябе маючымі права кпіць з іншых дзяцей і пераследаваць іх.

У завадатараў з'яўляюцца паслядоўнікі. Ёсць і маўклівыя назіральнікі, якія сваім маўчаннем заахвочваюць цкаванне і ніяк яму не перашкаджаць. Вельмі рэдка ў ахвяры можа з'явіцца абаронца, які спыняе спробы здзекаў. Калі гэта дастаткова аўтарытэтны вучань, то цкаванне спыняецца.

Ахвяра, што знаходзіцца ўвесь час у неспрыяльным асяроддзі, пастаянна адчувае адмоўныя эмоцыі, перажывае, губляе ўпэўненасць у сабе і сваіх сілах, што можа змяншаць паспяховасць, а тое і зусім спрыяе таму, што дзіця перастае вучыцца і адмаўляецца хадзіць у школу. Самае страшнае — рэгулярныя здзекі могуць спраўакаваць суіцыд або жаданне расправіцца са сваімі крыўдзіцелямі.

Да такіх крайніх мераў можа падштурхнуць не разавае дзеянне завадатараў, а пастаяннае, сістэматычнае. І тады мы можам казаць ужо пра булінг. Гэта англійскае слова азначае запалохванне, фізічны або псіхалагічны тэрор, скіраваны на тое, каб выклікаць у іншых страх, і тым самым падпарадкаваць іх сабе.

Самымі распаўсюджанымі формамі булінгу з'яўляюцца пагрозы, абразы, саркастычныя заўвагі, прыніжэнне, насмешкі, наданне абразлівых мянушак, з якімі пастаянна звяртаюцца да чалавека, тым самым раняць яго, высмейванне ў прысутнасці іншых дзяцей. Вучня могуць пастаянна штурхаць, перыядычна біць, часта не прымаюць у гульню ці выбіраюць самымі апошнімі. Аднакласнікі могуць адмаўляцца сядзець з ахвярай за адной партай, могуць проста ігнараваць: нічога, нібыта, дрэннага не робяць, але і не цікавяцца ім. Магчымыя вымагальніцтва грошай, псаванне маёмасці — пэцкаюць або ламаюць рэчы, могуць хаваць іх ці закідваць куды-небудзь.

На жаль, булінг не абмяжоўваецца толькі такімі дзеяннямі. З распаўсюдам інтэрнэту з'явіўся новы від булінгу — кібербулінг з выкарыстаннем сацыяльных сетак. Дзеці пішуць адзін аднаму брыдоту, выкарыстоўваюць нецэнзурную лексіку, распаўсюджваюць плёткі, што ганяць гонар і годнасць іншых. А цяпер яшчэ і па тэлефоне можна нахаміць і застацца непазнаным.

У мінулым годзе мне давялося працаваць з адным пятым класам у нашай школе. У гэтым класе часцяком узнікалі канфлікты і бойкі, у якіх удзельнічала адна і тая ж група дзяцей. Канфлікты ўзнікалі і ў пачатковай школе, але там была ўсяго адна настаўніца, якая добра ведала дзяцей і магла гасіць канфлікты. У пятым класе сітуацыя змянілася: класны кіраўнік не здольны знаходзіцца з класам на кожнай змене і кантраляваць паводзіны дзяцей. І, як часта бывае, вінаватым заўсёды аказваўся адзін хлопчык. Дзеці скардзіліся, што ён увесь час б'ецца, грубіць і плача, калі бацькоў выклікаюць у школу. Падчас чарговага скандалу класны кіраўнік прывяла дзіця да мяне са словамі: «Сілы маёй больш няма. Зрабіце што-небудзь. Зноў гэты...»

Перада мной быў сціплы хлопчык, вельмі напалоханы, са слязамі на вачах, які не хацеў ні з кім размаўляць. Гледзячы на яго, я стала сумнявацца, што ён мог крыўдзіць аднакласнікаў, якія і вышэйшыя, і здаравейшыя. Калі я спытала: «Моцна цябе дастаюць?», хлопчык расплакаўся. Потым, трохі супакоіўшыся, распавёў, што аднакласнікі яго пастаянна абзываюць, штурхаюць, здзекліва каментуюць яго працу, смяюцца, калі ён адказвае каля дошкі, называюць «Плакс» і

# Хто абароніць дзяцей ад

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Пра абарону дзяцей мы найчасцей чуем у першы дзень лета, калі ў гарадскіх парках праходзяць тэматычныя дзіцячыя святы. Раз на год чыноўнікі з адухоўленымі тварамі прамаўляюць пра «кветкі жыцця» і «нашу будучыню», некаторыя нават пускаюць слязу ад замілавання, калі маленькая кветачка пад наглядам строгага завуча дорыць сівому аратару букет.**

Але ўвечары Міжнародны дзень абароны дзяцей заканчваецца, сцэну разбіраюць, чыноўнікі вяртаюцца ў кабінеты, а дзеці — дадому ці ў школу, дзе могуць спадзявацца толькі на сябе. Чаму ў Беларусі не працуе Адзіная мадэль абароны дзяцей, ці сапраўды сучасныя дзеці невыносныя, чаму ўсе маўчаць, калі кіраўнік дзяржавы публічна называе чужое дзіця «шчанюком», — пра гэта і многае іншае гутарым з кіраўніком міжнароднага грамадскага аб'яднання «Разуменне» **Андрэем Маханько**.

***— Гучнае здарэнне, якое наўпрост тычыцца тэмы абароны дзяцей, — скандал у Гомелі, дзе настаўніца аблаяла хлопчыка. Як вы ацэньваеце гэтую гісторыю?***

— Тое, што адбылося ў Гомелі, — гэта адлюстраванне грамадства, дзе дзіця не вартае анічога. Няма дзяцей у гэтай краіне. На іх правы насамрэч усім напляваць. Няма такога суб'екта ў Рэспубліцы Беларусь, як дзеці, і сваімі выказваннямі пра «адкруціць галаву шчанюку» кіраўнік дзяржавы гэта пацвердзіў. Дзяцей можна зневажаць, іх можна не браць у разлік. Так мы хутка вернемся ў тыя змрочныя часы, калі дзяцей маглі і забіць, і прадаць...

Лукашэнку наогул не варта было ўлазіць у гэтую гісторыю. Ёсць структуры, якія кіруюць адукацыяй, — яны і павінны былі разбірацца з тым, што здарылася. Не трэба было рабіць ніякіх скандалаў, варта было зладзіць медыяцыю паміж бацькамі, настаўніцай і вучнем. Пасадзіць іх усіх за стол, папрасіць адзін у аднаго прабачэння і разысціся. Але мы ж ведаем, што падтрымка настаўнікаў патрэбная для выбарчых кампаній, таму ён і ўмяшаўся.

***— Чаму шмат людзей, у тым ліку і аўтарытэтных настаўнікаў, выказаліся ў абарону настаўніцы? Можа, сучасныя дзеці сапраўды п'юць кроў і нервы з педагогаў?***

— Я шмат размаўляю з рознымі настаўнікамі, яны кажуць: так, дзеці складаныя, дзеці паводзяць сябе з выклікам. Але так было заўсёды. Зараз проста гэта мацней выяўляецца, бо ёсць тэлефоны, камеры, яны адчуваюць сябе абароненымі. Яны могуць запісаць нешта, перадаць бацькам, а тыя ўжо будуць звяртацца ў дзяржаўныя органы. А з іншага боку, дзеці як былі дзецьмі, так імі і засталіся. З імі размаўляць трэба. Калі на біялогіі ім чытаюць лекцыі пра паводзіны, што тут казаць? Пра біялогію трэба размаўляць, пра клетачкі, мікраскопы, а не пра тое, ужываць тэлефоны на ўроках ды перапынках, ці не ўжываць. Не ўмееш з дзецьмі — бяры рыдлёўку, ідзі капай яму.

Я сам бацька падлетка, і адно дзіця ўжо выгадаваў. З дзецьмі не трэба апускаць рукі: яны гэта адчуваюць, сядаюць на шыю. Калі да мяне ў летнік прыязджаюць дзеці з дзіцячых дамоў — мы з імі развітваемся найлепшымі сябрамі. Дзеці не сталі горшымі, з імі займацца трэба. Калі ім цікава — усё будзе добра. Не трэба палохацца праяў падлеткавай агрэсіі. Кажуць, што дзеці страцілі каштоўнасці. Не, проста грамадства стала больш жорсткім, але хто мог — каштоўнасці захаваў і перадаў сваім дзецям.

Пазіцыя педагогаў мяне шчыра здзіўляе. Проста канфармісты. Многія кажуць: у нас цяпер настаўнікі такія нагружаныя-перагружаныя, павінны днямі і начамі запаўняць журналы, прымусова хадзіць на хакей-шмакей. Але чаму ж ніхто з іх не гаворыць «не»?

Што тычыцца настаўнікаў, якія публічна выказалі свае пазіцыі ў падтрымку Лукашэнкі, я іх часткова разумею: яны робяць кар'еры, свае праекты — і калі яны раскрыюць рот, назаўтра ад іх праектаў нічога не застанецца.

***— Як дзеці могуць сябе абараніць у выпадку падобнага гвалту? Зняць на тэлефон, распавесці бацькам. Яшчэ што?***

— Насамрэч, паўнавартасны механізм абароны дзяцей у Беларусі цяпер не дзейнічае. Публічнасць, падтрымка бацькоў — гэта добра, але не заўжды эфектыўна. Калі ў Гомелі прыцісніцца тую сям'ю школьніка — што ім рабіць, судзіцца з кіраўніком дзяржавы? Школьныя псіхолагі таксама не заўсёды кампетэнтныя. Мы стварылі 24 розныя кніжачкі — паўнавартасныя дапаможнікі па тэме абароны дзяцей, раздалі ў школы. Але калі яны будуць стаяць на паліцах — рады не будзе. Трэба, каб педагог іх чытаў, рабіў па іх гадзіны інфармавання і гэтак далей. Дзе гэта робіцца? Большасць



**Андрэй Маханько:**
**«Дзеці складаныя, дзеці паводзяць сябе з выклікам. Але так было заўсёды»**

ведаў на тэму бяспекі, якія даюць у школах, абмяжоўваецца сумнай праграмай прадмета АБЖ.

Калі мы стваралі Адзіную мадэль абароны дзяцей, мы ўзяліся за яе комплексна, стратэгічна — гэтым мы і адрозніваліся ад іншых падыходаў. Нешта будзе толькі, калі ёсць сістэмны падыход. Дзіцё, якое пацярпела ад гвалту — фізічнага, эмацыянальнага ці сексуальнага, — павінна выйсці з сістэмы з найменшымі стратамі: гэта першапачатковы прынцып работы. Сістэма павінна быць сяброўскай для дзіцяці. Кропка ўваходу ў яе — гэта дзіцячая тэлефонная лінія.

На жаль, тэлефонная лінія зараз амаль не працуе. У 2014 годзе мы яе перадалі Міністэрству аховы здароўя, і ўжо з канца таго года я пачаў весці з імі сапраўдную барацьбу. І толькі ў 2017 годзе перад падачай дзяржаўнай справаздачы ў Камітэт ААН пра правах дзіцяці Мінздароўя выйшла на нас з ініцыятыўнымі захадамі — давайце, дапамагайце. Мілыя, даражэнькія людзі, мы ўсё для вас ужо зрабілі! Вось абсталяванне, якое мы закупілі, яно стаіць у замкнутым пакоі ў РНПЦ псіхічнага здароўя ў Навінках. Трэба ўзяць, перавезці, падключыць. Усё працуе, калі яшчэ не расцягнулі, канешне.

Была гісторыя, калі ў ліпені 2014 года мы лінію перадалі, а ўжо ў кастрычніку я хадзіў па РНПЦ збіраў крэслы, сталы, нейкія запчасткі ад кампутараў даставалі са сваіх ПК, вярталі нам.

***— Калі вы аддалі гатовы сэрвіс, чаму ім не карыстаюцца?***

— За гэта не плацяць дадатковых грошай, у іх няма часу. Я ўжо 6 гадоў з'яўляюся чальцом Камісіі па справах непаўналетніх пры Савеце міністраў. Перад адным з пасяджэнняў, калі я ўзняў пытанне пра дзіцячую лінію, віцэ-прэм'ер Тозік патэлефанаваў на тую самую лінію — і ніхто не адказаў. Тады ўсе забегалі, заварушылася. У ліпені 2014 года я перадаваў цалкам дзейсную, абсталяваную лінію з падрыхтаваным персаналам: трэба было толькі плаціць зар-

# ім хаваецца?

абражаюць яго сям'ю. «Я спачатку трываю, трываю, а потым даю адпор. Мама мне кажа: "Не звяртай увагі!". А як, калі яны мяне называюць бамжом?»

Вельмі часта ахвяра булінгу можа быць пакараная за тое, што абараняецца. Так было і з ім. Пастаянныя заўвагі ў дзённіку, званкі бацькам. Хлопчык жыў з айчымам, які караў яго за дрэнныя паводзіны ў школе. Трывожная мама, якая сама зазнала булінг, калі вучылася ў школе, вельмі перажывала за сына, але не магла навучыць яго слушна выбудоўваць адносіны з аднагодкамі.

Адзін супраць усіх! Ён перастаў давяраць людзям, стаў вельмі недаверлівым і крыўдлівым. Яго можна было лёгка вывесці з сябе, а потым яшчэ і паскардзіцца настаўніцы, які ён дрэнны. І так магло доўжыцца гадамі. Давялося працаваць з усім класам.

Апытваючы аднакласнікаў, я прыйшла да высновы, што хлопчык праяўляе агрэсію толькі пасля таго, як яго раззлуюць. Сам ён нікога не чапаў. Часцей за ўсё сядзеў адзін, аднакласнікі не жадалі сядзець з ім побач. Пасля праведзенай работы канфлікты ў класе сціхлі. У яго нават з'явіўся сябар, з якім яны разам гулялі на вуліцы. І мы супакоіліся. Хлопчык адразу акрыяў, стаў паводзіць сябе больш спакойна. Аднакласнікі не даставалі.

Але праз два месяцы класны кіраўнік зноў прывяла яго да мяне. Сказала, што на ўроку хлопчыку нехта патэлефанаваў, пасля чаго той збялеў і расплакаўся. Аказалася, што гэта быў невядомы нумар. Незнаёмы голас яму сказаў: «Ну ўсё табе хана! Калі каму-небудзь раскажаш, уся твая сям'я будзе адказваць!». Пачуўшы такое, дзіця вельмі спалохалася.

Мы папрасілі вучняў паказаць свае мабільныя (выходныя званкі) і вызначылі, што ў той час, калі паступіў званок, адзін з аднакласнікаў тэлефанаваў яму, але яго нумар быў схаваны. Па голасе не вызначылі, хто тэлефанаваў, бо голас быў зменены з дапамогай праграмы.

Калі я спытала, чаму гэты хлопчык так паступіў, ён адказаў, што паўгода таму яго пакаралі бацькі: нібыта ахвяра сказала, што ён быў у групе хлопчыкаў, якія яго білі. А ён, нібыта, не быў. Чалавек паўгода насіў у сабе крыўду, і толькі цяпер вырашыў адпомсціць. У змове з ім былі яшчэ некалькі хлопчыкаў, якія і раней цкавалі падлетка. Умяшанне дарослых прымусіла завадатараў часова прыціхнуць, а потым дзейнічаць больш асцярожна.

Пасля гэтага званка вучань вельмі спалохаўся — не за сябе, а за сваю сям'ю. Быццам, бяскрыўдны жарт, але ці так на самай справе?

### Чаму гэта адбываецца?

Часцей за ўсё ў аснове булінгу ляжыць імкненне самасцвердзіцца, вылучыцца. Вельмі рэдка цкаванне — вынік асабістай помсты.

Крыўдзіцелямі могуць стаць: актыўныя дзеці, якія прэтэндуюць на ролю лідара ў класе; агрэсіўныя дзеці, якія знайшлі для самасцвярджэння безадказную ахвяру; дзеці, якія імкнуцца любой цаной быць у цэнтры ўвагі; дзеці, якія прызвычаіліся ставіцца да іншых з пачуццём перавагі (вынік адпаведнага сямейнага выхавання).

Булінг пачынаецца, часцей за ўсё, з прысвойвання камусьці мянушкі: для таго, каб свядома абразіць, раззлаваць аднакласніка. Часам, каб прыцягнуць увагу таго, каго дражнілі, часам гэта правакацыя — прымусіць аднагодка паганяцца за сабой, пазмагацца. Бывае і так, што дзіця не столькі хоча пакрыўдзіць свайго таварыша, колькі імкнецца павесяліць навакольных. Яшчэ адна прычына — самасцвярджэнне: свядома абражаюць аднагодка, каб вылучыцца ў вачах аднакласнікаў, зацвердзіць сябе як лідара ў калектыве. Часам пакрыўджанае дзіця пачынае дражніць крыўдзіцеля, бо не можа расправіцца з ім фізічна.

Пазбегнуць з'яўлення дражнілак у класе немагчыма — гэта дзеці. Але бацькі і педагогі не павінны пакідаць такія сітуацыі па-за ўвагай. Важна спыніць з'яўленне крыўдных мянушак напачатку.

Калі дзіця скардзіцца на тое, што яго абзываюць, бацькам важна пагаварыць, як можна і трэба рэагаваць, калі яго дражняць. Часам можна параіць проста ігнараваць, не звяртаць увагу на мянушку. Гэта бывае складана, але можа быць вельмі эфектыўна.

«Руды! Руды!» — кліча аднакласнік. Можна проста не адклікацца, пакуль не звернецца па імені, як быццам не разумееш, да каго звяртаюцца. Ці сказаць: «Прыемна пазнаёміцца!»

Часам, калі дзіця дражніцца, то яно не заўсёды разумее, што робіць камусьці балюча. Тады неабходна растлумачыць: «Мне крыўдна гэта чуць. Ты хочаш мяне адмыслова пакрыўдзіць? Мне не хочацца сябраваць з такім чалавекам».

Дражнілкі — гэта як заклік да дзеяння. Не трэба паддавацца на правакацыю і дазваляць сабой маніпуляваць. Людзі часта выкарыстоўваюць лаянку ў выпадках, калі ад адчаю ў іх не хапае сілаў і слоў. Часам карысна адказаць крыўдзіцелю тым жа: «Дурніца!» — «Сам дурань!» Можа, не зусім педагагічна, але часам дзейсна. Лепш выкарыстоўваць адгаворку: «Хто абзываецца — сам і называецца».

У межах аднаго артыкула немагчыма разгледзець усе прычыны булінгу і яго наступствы. Разумець прычыны — гэта толькі першы крок. Важна пераламаць стэрэатып, які склаўся ў «адрынутага». Але гэта не так проста. Тут павінны быць задзейнічаны і настаўнікі, і бацькі, і клас у цэлым.

Дарослым важна разумець, што адбываецца ў калектыве. Толькі сумеснымі намаганнямі можна навучыць дзяцей метадам бесканфліктных зносін. А для гэтага нам самім трэба стаць добрым прыкладам для пераймання.

# гвалту?

бак аператарам. Але і гэтага яны не робяць!

Што паказала нашая дзейнасць за апошнія гады? За невялікія грошы можна ствараць шалёна эфектыўныя сэрвісы, прыклады для свету, і перадаваць дзяржаве. Але дзяржава не будзе іх браць па адной простай прычыне: за гэтым не ідзе мільённае фінансаванне ад Еўрасаюза ці ААН, якое можна «асвоіць».

***— Што з Адзінай мадэлі абароны дзяцей у Беларусі працуе?***

— Дзіцячыя пакоі для апытання — гэта той кампанент, якія яшчэ трымаецца. Там апытваюцца дзеці, якія былі ахвярамі сексуальных злачынстваў, сведкамі цяжкіх і асабліва цяжкіх крымінальных злачынстваў. Мы бачылі розныя прыклады ў свеце, але наша рэчаіснасць не адпавядае ніводнаму з тых узораў, давялося выпрацоўваць уласны падыход.

Вельмі важна выбраць месца для гэтых пакояў. Напрыклад, Польшча зрабіла памылку — яны арганізавалі такія дзіцячыя пакоі ў паліцэйскіх пастарунках. А потым змянілася заканадаўства, і, згодна з гэтымі папраўкамі, дзіця павінен апытваць суддзя дасудовага працэсу, і ён не можа гэта рабіць у паліцэйскім участку. І яны згубілі 150 пакояў з 200.

У нас пакоі (у Беларусі іх болей за 20, шэсць з іх у сталіцы) размяшчаюцца ў розных месцах, у асноўным — у сацыяльна-педагагічных цэнтрах, дзе ёсць дзіцячыя сацыяльныя прытулкі. У гэтым няма нічога падазронага для людзей, яны больш ахвотна прыводзяць дзіця да таго ж псіхолага ці псіхіятра на размову. Бо калі цягнуць дзіця на апытанне ў міліцыю — не ўсе гэта ўпадабаюць.

Адзін з першых пакояў мы адкрылі ў судзе Мінскага раёна. Яны ўжываюць гэты пакой для выканання двух задач: першая задача — гэта нашая. А другая задача — гэта правядзенне працэсу з мерамі абароны сведкаў. Міліцыянты нам распавядалі, што да з'яўлення нашага пакоя на сведку маглі нацягнуць літаральна скрыню ад лядоўні, і з той скрыні сведка даваў паказанні, каб яго не пазналі.

***— У медыя зараз ледзь не штотыдзень публікуюць розныя шакуючыя гісторыі пра сексуальны гвалт з дзяцей. Няўжо настолькі ўзрасла колькасць гвалтаўнікоў?***

— Не, гэта звязана з паляпшэннем раскрывальнасці. На канец 2019 года выкрыццё павялічылася ў шэсць разоў за апошнія 11 гадоў. Такім гісторыям пачалі надаваць большую ўвагу. Але ёсць недастатковы прагрэс у справе рэабілітацыі такіх дзяцей. Паводле дадзеных на 2016 год, колькасць згвалтаваных дзяцей, якія прайшлі курс рэабілітацыі, за некалькі гадоў вырасла з 8% да 42%. Зараз, можа, ужо назад да 8% скаціліся.

Рэабілітацыю праходзяць у дзіцячых псіхіятрычных дыспансерах ды СПЦ. Колькі з імі займаюцца, залежыць ад стрэсаўстойлівасці дзіцяці. Камусьці і дзесяці заняткаў хапае, камусьці трэба займацца год і не абысціся без антыдэпрэсантаў.

Статыстыкі, як складваецца жыццё згвалтаваных дзяцей пасля, у нас не вядзецца, ніхто нічога далей не адсочвае. Але зразумела, што нічога не праходзіць бясследна для псіхікі. Любы гвалт, нават калі не сексуальнае згвалтаванне, а школьны канфлікт, пакідае траўму на ўсё жыццё.

У 2002 годзе мы займаліся з групай дзяцей з дзіцячага дома, лёс якіх я працягваю адсочваць, вяду асабістыя назіранні. Дык вось з 23-х чалавек зараз жывыя 13. Іншых няма — алкаголь, самазабойствы...

***— Як можна палепшыць сітуацыю з Адзінай мадэллю абаронай правоў?***

— Вялікая праблема — адсутнасць фінансавання. Зараз ні ў каго з НДА няма грошай, і мы не выключэнне. Праблема і ў тым, што ўсе магчымыя фундатары зараз пачалі выкарыстоўваць рэсурсы дзяржструктураў ці пасярэднікаў з ААН. І дзяржаўным структурам, у сваю чаргу, спускаецца загад, каб прыцягвалі як мага больш замежнага фінансавання. Атрымліваецца, донарам зручней аддаць грошы дзяржаўным структурам ці ААН, а тыя грошы папросту марнуюць. Ну і, канешне ж, еўрапейцы ці — асабліва — мясцовыя бізнесоўцы хочуць бачыць, каму яны дапамагаюць. Прыходзяць і гавораць: «Мы хочам сустрэцца са згвалтаваным дзіцём». А гэта немагчыма з пункту гледжання этыкі. Як можна: толькі залячылі рану, а ў ёй прыйшлі пакалупацца добрыя на самай справе дзядзькі ды цёткі? З самымі што ні на ёсць добрымі намерамі, але... Выходзіць, што мы дапамагаем людзям, і нават іх твары паказаць не можам — ні дзяцей, ні бацькоў, за рэдкім выключэннем «не для прэсы».




Дзяржава не прымае ўдзелу ў фінансаванні. У яе няма і механізмаў дапамагаць недзяржаўным арганізацыям нешта рабіць. Праз дзяржаўную сацыяльную замову? Яна для тых з Еўрасаюза, хто «падманвацца рады».

Насамрэч, мала хто з іншаземцаў хоча глыбока ўнікаць у мясцовыя справы. Абмеркаванні ёсць, усе разумныя людзі, а калі даходзіць да справы — справы няма. Гісторыя з дзіцячай лініяй паказала: калі аддаў дзяржаве — забудзься пра гэта. Такі ж прыклад з начлежкамі для людзей без вызначанага месца жыхарства, якія ў свой час стварыла «Беларуская асацыяцыя сацыяльных працаўнікоў». Сэрвіс стаў працаваць у тых мінімальных рамках, якія дае дзяржава.

Што зараз адбываецца з дзіцячай лініяй? Там зараз стаіць, умоўна, чырвоны і зялёны тэлефон. На чырвоным тэлефоне — мінская гарадская дзіцячая лінія, якая фінансуецца з гарадскога бюджэту, а зялёны — агульнанацыянальная лінія, якую мы стварылі і перадалі Міністэрству аховы здароўя, на якую бюджэту няма. Два тэлефоны стаяць побач на адным стале. І калі звоніць наш тэлефон, а тым часам апаратар адказвае на званок мінскай гарадской лініі, ён будзе званіць далей, і ніхто не адкажа. Бо за гэта грошай не плацяць.

Каб «Разуменне» магло дапамагаць дзецям-ахвярам сексуальнага гвалту, яму патрэбна ваша дапамога! Ахвяраванні праз АРІП (ЕРИП) па коду паслугі 4441811 будуць прынятыя з удзячнасцю. Юрыдычныя асобы будуць аўтаматычна вызваленыя ад падатку на прыбытак на суму дапамогі «Разуменню» на падставе арт. 140 Падатковага кодэксу. Даведкі па тэл. +375-29-761 12 01. Больш інфармацыі — на старонцы ў Facebook @ponimanie.belarus

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Джокеры ідуць на Майдан

Як вядома, традыцыйныя рэлігіі крытычна ставяцца да росту папулярнасці Хэлоўіну. У гэтым годзе ў святкаванне Хэлоўіна ўмяшаўся яшчэ адзін дадатковы фактар. Ён звязаны з нядаўнім выхадам на экраны фільма «Джокер», галоўны персанаж якога сімвалізуе асабісты пратэст, паўстанне супраць рэалій буржуазнага грамадства. Між тым, у Расіі ў постаці Джокера ўгледзелі пагрозу Майдана новага тыпу. Інтэрнэт-выданне чалябінскай секцыі РПЦ сцвярджае, што на апазіцыйных сайтах з'яўляюцца «рэкамендацыі» святкаваць «Ноч усіх святых» выключна ў касцюмах Джокера. Гэтыя «рэкамендацыі» расцэньваюцца як правакацыйныя, паколькі амплуа Джокера — гвалт як сродак выказвання пратэсту супраць сістэмы. Такім чынам, святкаванне Хэлоўіна ў касцюме Джокера, маўляў, патэнцыйна можа скончыцца масавымі пагромамі, якія выльюцца ў антыпуцінскі Майдан. Усё гэта, на думку аўтараў тэорыі, «патрабуе адпаведнага рэагавання бацькоў, педагогаў і праваахоўных органаў».

**Паводле расійскай прэсы**

### ЕЎРОПА. Турызм «толькі для жанчын»

Заходняя прэса ўпершыню звярнула ўвагу на бум такога незвычайнага сектару, як «турызм для жанчын». Прыкладна з 2017-га, на хвалі феміністкага руху #metoo паўсталі турыстычныя фірмы, якія працуюць выключна з жанчынамі. Апошнія, у сваю чаргу, жадаюць адпачываць толькі ў гатэлях, дзе няма мужчынаў. Аказалася, што формула працуе. Толькі ў Францыі на платформе для аматараў такога адпачынку штодзень рэгіструецца адна асоба. А колькасць падпісчыкаў набліжаецца да некалькі тысяч. Падобная форма турызму цікавіць галоўным чынам жанчын, якія хочуць правесці адпачынак самотна — без дзяцей або сямейнікаў. У гэтым плане лічыцца, што «турызм для жанчын» дазваляе «цалкам расслабіцца і вызваліцца ад мужчынскіх поглядаў». У верасні аматары новага тыпу адпачынку адсвяткавалі першы значны поспех. Гатэль Le Som Dona Hotel, што ў Іспаніі, першы ў свеце абвясціў, што цяпер будзе працаваць выключна з кліентамі-жанчынамі. Праўда, больш за шэсць кліентаў пакуль той гатэль прыняць не здольны. А тым часам у Швецыі ўжо прайшоў першы рок-фестываль, куды ў якасці музыкаў і гледачоў дапускаліся толькі жанчыны.

**Паводле французскай прэсы**

### УКРАІНА. Сянцоў ідзе ў палітыку?

Алег Сянцоў — крымскі рэжысёр, асуджаны ў Расіі на 20 гадоў і нядаўна вызвалены ў рамках абмену вязнямі паміж Расіяй і Украінай, можа падацца ў вялікую палітыку. На гэтую тэму спекулююць украінскія медыя. Падставай сталі цесныя кантакты Сянцова з алігархам Віктарам Пінчуком. Пінчуку ўжо прыпісваюць падтрымку партыі «Голас» спевака Святаслава Вакарчука. Пасля нядаўніх пазачарговых выбараў у Вярхоўную Раду «Голас» прайшоў у парламент, дзе стварыў фракцыю. Аднак сам спявак адмовіўся яе ўзначаліць, і наогул паводзіць сябе не вельмі актыўна. Нядаўна ён палічыў за лепшае не сядзець у Радзе, а даць вялікі канцэрт у Мінску, выклікаўшы на сябе агонь крытыкі. Відаць, Вакарчуку неабходная замена, якой можа стаць раскручаны ў медыя Сянцоў. Аднак ёсць адно «але». Супраць Сянцова працуе неадназначная палітычная гісторыя Надзеі Саўчанка. Апошняя дыскрэдытавала саму з'яву, калі чалавек спачатку сядзіць за палітыку ў расійскай турме, а пасля выходзіць на волю і намагаецца ператварыць сваю гісторыю вязня ў палітычны брэнд. У любым выпадку, нават калі Сянцоў пойдзе ў палітыку, раскручваць яго будуць пад парламенцкія выбары, якія пройдуць не раней чым праз пару гадоў.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Нашы продкі жылі ў субтропіках?

Гісторыкі Казахстану сцвярджаюць, што зразумелі прычыну поспехаў мангола-татараў у XIII стагоддзі, калі войскі Батыя дайшлі да Венгрыі і Польшчы. Прычым, ваявалі яны, як правіла, узімку. На думку гісторыкаў, татарам дапамагала незвычайна цёплае надвор'е, якое панавала на той час у свеце. Пра цёплы клімат сведчыць, напрыклад, тое, што назва адкрытай тады вікінгамі выспы «Грэнландыя» перакладаецца як «Зялёная краіна». Версія пра незвычайна цёплае надвор'е дазваляе зразумець, адкуль татары мелі столькі фуражу, каб карміць сваіх коней. «Стэпавыя абшары квітнелі. Трава расла вельмі хутка, а жывёлаў, у тым ліку і коней, было шмат. Гэты фактар паўплываў на баявыя магчымасці качэўнікаў», — піша адзін з аматараў тэорыі. Застаецца адно пытанне: як цёпла было ў нашых шыротах прыкладна 800 гадоў таму? Некаторыя, адказваючы на яго, дапускаюць, што тагачасны клімат можна параўнаць з субтропікамі. Адзін з доказаў — незвычайны запіс у сярэднявечных летапісах Пскова: «Того же лета изыдоша коркодили лютии звери из реки и путь затвориша, людей много поядаша». Шмат гадоў гісторыкі не верылі ў кракадзіла пад Псковым, аднак цяпер, падаецца, крыху прызадумаліся.

**Паводле казахстанскай прэсы**

# Крах аперацыі «напаўтранзіт»

Алег НОВІКАЎ

**Хапіла некалькіх месяцаў, каб у Казахстане скончыўся эксперымент, калі былы прэзідэнт пасля фармальнай адстаўкі фактычна захоўвае ўплыў на палітычныя рашэнні.**


Фота www.zonakz.net

Роўна дзесяць гадоў таму Нурсултан Назарбаеў нечакана запатрабаваў ад мясцовых навукоўцаў мегапрарываў у галіне працягласці жыцця, заклікаўшы, у прыватнасці, прыдумаць эліксір бессмяротнасці. Свой капрыз ён тлумачыў універсальнымі праблемамі чалавецтва, хаця ўсе цудоўна разумелі: правадыр марыць адтэрмінаваць аперацыю «пераемнік» — момант перадачы ўлады іншай асобе з-за фізічнай няздольнасці самому выконваць функцыі кіраўніка дзяржавы.

Нягледзячы на ўсе намаганні навукоўцаў, рэцэпту цудоўнага эліксіру дасюль няма. Затое ў адміністрацыі Назарбаева прыдумалі рэцэпт, як можна максімальна доўга заставацца пры ўладзе фактычна, фармальна будучы ў ценю. Рэцэпт вельмі просты: на пасаду кіраўніка прызначаецца чыноўнік, які павінен займацца ўсімі бягучымі праблемамі. Між тым, прыкрываючыся тытулам пажыццёвага старшыні Савета бяспекі — органа, які кантралюе ўсе сілавыя структуры, — Назарбаеў працягвае вызначаць курс дзяржавы.

Адпаведная аперацыя, што ў прэсе атрымала назву «напаўтранзіт», адбылася ў сакавіку гэтага года. Пасаду кіраўніка дзяржавы фармальна ўзначаліў былы дыпламат Касым Жамарт Такаеў.

Спачатку ўсё ішло паводле плану. Пайшлі нават плёткі, што казахстанскі сцэнар можа быць імпартаваны ў Расію і ў Беларусь. Такаеў паводзіў сябе вельмі дысцыплінавана, не выходзіў за «чырвоныя сцяжкі», якія паставіў Назарбаеў. Нават выступіў супраць вывешвання сваіх партрэтаў у афіцыйных установах. Галоўным чынам Такаеў засяродзіўся на рэалізацыі сацыяльна-эканамічных пытанняў.

Гармонія паміж лідарам краіны і кіраўніком Саўбезу нечакана скончылася 21 кастрычніка, калі грамадскасць азнаёмілі з падпісаным Такаевым указам. Згодна з ім, прэзідэнт Казахстана павінен абмяркоўваць і ўзгадняць прызначэнні на некаторыя дзяржаўныя пасады.

Прэс-служба казахстанскага гаранта сцвярджае, што гэта — толькі дзяжурнае рашэнне. Аднак шмат каму ў вочы кінуліся дзіўныя дэталі. Дакумент быў падпісаны 9 кастрычніка, але з'явіўся ў адкрытым доступе толькі праз пару тыдняў. Шэраг афіцыйных СМІ, якія спачатку апублікавалі навіну аб пашырэнні паўнамоцтваў Назарбаева, пасля выдалілі паведамленні, каб не дражніць грамадскасць. Нарэшце, цяжка назваць «дзяжурным рашэннем» пастанову, згодна з якой Такаеву давядзецца ўзгадняць з Назарбаевым практычна ўсе галоўныя дзяржаўныя пасады: ад кіраўніка Камітэта нацбяспекі і генпракурора да начальніка службы сваёй аховы. На падставе гэтага некаторыя эксперты робяць выснову: Назарбаеў не жадае сыходзіць з улады.

На іх думку, такі вынік быў прадказальны. Частка дзяржаўнага апарату сапраўды пачала асцярожна перабудоўвацца пад Такаева. Гаворка пра тую фракцыю чыноўнікаў, якая ўсведамляе, што палітычная кансервацыя ўнутры краіны не мае перспектыў, асабліва на фоне глабальных геапалітычных трансфармацый. Тыя зрухі, у сваю чаргу, выклікалі боязь у старой гвардыі, прадстаўнікі якой уяўляюць сябе толькі ў старой матрыцы. Яна, дарэчы, у тым ліку гарантавала ім выхад да бюджэтнай кармушкі. Нібыта фракцыя рэтраградаў змагла пераканаць Елбасы, што Такаеў пад яго капае.

**«Гарбатага магіла выправіць». Елбасы, які руліць краінай аж з канца 1980-х гадоў, ужо амаль на генна-малекулярным узроўні зросся з пасадай прэзідэнта, і нават не можа ўяўляць сябе ў новых рэаліях**

Назарбаеў мог прыслухацца да такіх сігналаў і праз тое, што Такаеў быў вымушаны заняцца інвентарызацыяй іміджавых праектаў мінулай улады накшталт Дня Астаны, які святкуецца ў дзень нараджэння Назарбаева, або праграмы перахаду краіны на лацінку. Усе гэтыя праекты вельмі дорага каштавалі дзяржаве, а іх бюджэт патрабуе карэкцыі. Аднак Елбасы мог успрыняць крокі Такаева як рэвізію яго геніяльнай спадчыны, што ў яго вачах паступова стварае глебу для дэсакралізацыі фігуры Лідара нацыі з усімі негатыўнымі наступствамі для яго клану.

Іншыя заклікаюць не надаваць асаблівай увагі версіі пра раскол унутры казахстанскай эліты. На іх думку, у дадзеным выпадку сваю ісціну даваля прыказка пра тое, што «гарбатага магіла выправіць». Дапускаюць, што Елбасы, які руліць краінай аж з канца 1980-х гадоў, ужо амаль на генна-малекулярным узроўні зросся з пасадай прэзідэнта, і нават не можа ўяўляць сябе ў новых рэаліях. Сапраўды, інстынкт вечнага кіраўніка праяўляўся ў яго раз-пораз. Нядаўна, напрыклад, Елбасы ў ручным рэжыме правёў пасяджэнне кіраўніцтва праўладнай партыі «Нур Атан» і, насуперак статуту, раздаў яе сябрам свае мудрыя ўказанні.

У глабальным маштабе ўсё выглядае вельмі кепска для тых, хто марыць пра альтэрнатывы транзіту ўлады. Атрымліваецца, што любы пераемнік аўтарытарнага правадыра, выконваючы агульныя дамоўленасці падчас транзіту, усё роўна вымушаны выбудоўваць эксклюзіўную палітыку. Аднак у сілу слабасці палітычнай культуры ў постсавецкіх краінах такая спроба будзе ўспрынятая патронам як замах на яго асабістую ўладу.

Зрэшты, некаторыя палітолагі спрабуюць разглядаць апошнія падзеі як нейкую апаратыўную карэктыву мадэлі па ходзе яе абкаткі. На іх думку, Назарбаеў проста хоча быць упэўненым, што ў Такаева не будзе сваёй каманды і шырокай сеткі прыхільнікаў у цэнтры і на месцах, што выключае магчымасць паўзучага перавароту. З іншага боку, такі падыход стварае перадумовы да таго, што прызначаныя Елбасы чыноўнікі будуць сабатаваць загады прэзідэнта, бегаючы за інструкцыямі да старога гаспадара, што дакладна разбалансуе вертыкаль. У гэтым плане вынікі аперацыі «напаўтранзіт» для краіны могуць абсалютна непрадказальныя.

Адгукнуцца падзеі ў Казахстане і нам. Відавочна, што пад уплывам навінаў з Астаны схема перадачы ўлады пераемніку пры захаванні часткі паўнамоцтваў у экс-гаранта ўжо наўрад ці магчымая.







picture-alliance/dpa

Фота www.dw.com

# Футбол без сцяны

Алег НОВІКАЎ

**Для некаторых немцаў сапраўднае аб'яднанне Германіі адбудзецца толькі на гэтым тыдні. 2 лістапада ўпершыню пасля вайны афіцыйна сустрэнуцца Herta і Union — вядучыя футбольныя клубы Заходняга і Усходняга Берліна.**

Берлінскае наземнае метро, або S-Bahn, бадай, адзінае ў свеце, у вагонах якога дазваляецца вольна ўжываць алкаголь. Таму 40-хвілiннае падарожжа з усходняга раёну Капенік (тут базуецца Union) у заходні раён Шпандаў, дзе на алімпійскім стадыёне суперніка чакае Herta, для фанатаў будзе не вельмі нудным. Тым больш, яны чакалі гэтага моманту як мінімум паўстагоддзя.

Апошні раз на афіцыйным узроўні каманды сустракаліся яшчэ да вайны — у рамках мясцовай рэгіянальнай лігі. Тон тады задавала Herta, якая таксама здолела стаць два разы чэмпіёнам Германіі. Выпадкова склалася так, што юрыдычны адрас клуба знаходзіўся ў раёне горада, што трапіў пасля 1945-га ў зону акупацыі заходніх саюзнікаў. Дзякуючы гэтай акалічнасці клуб аказаўся ў чэмпіянаце ФРГ. А вось з клубам Union, які быў прапісаны на Усходзе, адбылася амаль вар'яцкая гісторыя. Большасць яго гульцоў у 1950-м перабегла ў заходні сектар, і аб'яднанне давялося ліквідаваць. Адрадзілі яго толькі ў 1966-м па ініцыятыве прафсаюзаў.

Union быў створаны, хутчэй, як лакальны клуб для аматараў футболу Капеніке — рабочага ўсходняга прыгараду Берліну. І тут раптам адбылася падзея фатальнага кшталту. Чыноўнікі перафарматавалі структуру чэмпіянату ГДР такім чынам, што Берлін у турніры прадстаўляла толькі «Дынама» — клуб «штазі» — МУС ГДР. Заўзець за такую каманду шмат для каго з берлінцаў было ганьбай. Альтэрнатывай стала маладая каманда з Капенік, якая да таго ж дэманстравала вельмі агрэсіўны футбол, ужо ў 1968-м стаўшы ўладальнікам кубку. Хутка аматарамі Union была ледзь не ўся багема і альтэрнатыўная моладзь.

Дзякуючы незвычайнай тарсідзе і прынцыповаму супрацьстаянню з «Дынама», клуб атрымаў рэнаме антысістэмнага. На трыбунах фанаты любілі крычаць — «Лепш прайграць, чым быць свіннёй штазі». Аматарамі «жалезных» (мянушка Union) сталі цікавіцца спецслужбы. З часам пра незвычайны клуб стала вядома і на Захадзе. Прыкладна з сярэдзіны 1970-х гадоў па абодва бакі Берлінскай сцяны спантанна нарадзілася мара — прыйдзе час, калі Union і Herta выйдуць на поле разам.

Эрзацам гэтай фантазіі сталі рэгулярныя гульні фанатаў клубаў, якія адбываліся з сярэдзіны 1970-х гадоў. З таго часу паўсталі сяброўскія адносіны паміж групоўкамі. Заходнія берлінцы нават узялі на сябе абавязак заўзець за Union, калі той гуляў за мяжой ГДР. Для фанатаў з ГДР замежныя ваяжы, па зразумелых прычынах, былі дастаткова складанымі. У 1989-м агульная брыгада фанатаў абодвух клубаў прыняла ўдзел у разбурэнні Берлінскай сцяны. Нарэшце, у студзені 1990-га ў прысутнасці 50 тысяч гледачоў каманды правялі легендарны сяброўскі матч, які стаў адным з сімвалаў радыкальных пераменаў ва Усходняй Германіі.

**На трыбунах фанаты любілі крычаць — «Лепш прайграць, чым быць свіннёй штазі». Аматарамі «жалезных» сталі цікавіцца спецслужбы. Пра клуб стала вядома і на Захадзе. Узнікла мара — прыйдзе час, калі Union і Herta выйдуць на поле разам**

Аднак падзенне сцяны яшчэ не значыла аднаўленне берлінскага дэрбі. Пасля ліквідацыі чэмпіянату ГДР каманды апынуліся ў розных дывізіёнах Бундэслігі. Больш за тое, Union, як і шмат усходніх клубаў, праз праблемы з грашыма час ад часу знаходзіўся на мяжы ліквідацыі. Апафеоз прыйшоўся на канец 1990-х гадоў, калі з клубнай базы праз пазыкі збеглі не толькі гульцы, аднак і трэнерскі штаб. Каманду выратавалі звычайныя тыфозі, у тым ліку і клубу Herta, якія правялі кампанію «Пяць марак для Union». Кампанія аказалася такой гучнай, што зацікавіла адну з кінастудый, якая пагадзілася стаць спонсарам. Падтрымалі клуб і зоркі. Напрыклад, арыгінальны варыянт гімну Union выканала зорка панк-сцэны Ніна Хаген.

Дзякуючы кампаніі сітуацыя стабілізавалася, і клуб з Капенік пачаў паступова рухацца ўверх з трэцяй лігі. Тым часам, прыкладна пару гадоў таму, быў заснаваны аргкамітэт святкавання 30-й гадавіны аб'яднання Германіі. Сябры камітэту меркавалі правесці на пачатку лістапада 2019-га сяброўскі матч Herta і Union, які павінен быў нагадаць сустрэчу 1990-га. Аднак нечакана для ўсіх Union у мінулым сезоне прабіўся ў вышэйшы дывізіён — і запланаваны як сяброўскі, матч стаў раптам афіцыйным. Што каласальна ўзняло інтарэс да гульні.

Больш за тое, сустрэча, падаецца, будзе цвікам юбілейных мерапрыемстваў. Святочная атмасфера вакол матчу на нейкі момант адраджае пачуцці, уласцівыя немцам у 1989-м. З таго часу шмат што змянілася. Праз 30 гадоў пасля пачатку аб'яднання раптам выявілася, што працэс моцна буксуе. Гэта яскрава давялі вынікі выбараў у зямельны парламент Турынгіі 27 кастрычніка, трыумфатарамі якіх сталі партыі «Левыя» і «Альтэрнатыва для Германіі». Абедзве палітсілы па розных прычынах адмоўна ставяцца да наступстваў падзення Берлінскай сцяны. Магчыма, берлінскае дэрбі 2 лістапада ўзмоцніць пазіцыі аматараў адзінай Германіі.

Зрэшты, нельга выключаць і адваротнага. За апошнія 30 гадоў тарсіда «жалезных» стала больш ідэнтыфікаваць сябе і з ГДР, і з Усходам. У гімне клубу ёсць нават словы накшталт: «мы ніколі не прададзімся Захаду». Наступствы аднаўлення рэгулярных сустрэчаў берлінскіх клубаў для грамадска-палітычнага жыцця краіны непрадказальныя. З іншага боку — на тое ён і футбол.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ільхам Алієў



Кіраўнік Азербайджана застаецца ў фокусе інтарэсу СМІ з-за татальных перастановак у сваім асяроддзі. Толькі за адзін тыдзень пад зачыстку трапілі прэм'ер, віцэ-прэм'ер, шэраг міністраў, у тым ліку кіраўнік нацыянальнай бяспекі і іншыя.

Да гэтага часу не зразумела, што задумаў Аліеў. Афіцыёз піша пра пачатак ў краіне эры дэмакратыі, якую, маўляў, запусціў правадыр. Іншыя дапускаюць, што ён за кошт ракіровак хоча пераарыентавацца на новыя кланы, адкуль вырашыў рэкрутаваць людзей у сваю адміністрацыю.

Праўда, нельга выключаць, што мы назіраем старую гульню ў добрага цара і кепскіх баяраў. Сярод звольненых Аліевым чыноўнікаў — вельмі непапулярныя ў народзе асобы. Трапіў пад апалу і сілавік, які адказваў за хапуны апазіцыі. Апазіцыянеры, дарэчы, сцвярджаюць, што за адстаўкамі стаіць інфармацыя разведкі пра тое, што амерыканцы рыхтуюцца зняць Аліева. Вось той, маўляў, і вырашыў замацаваць свае пазіцыі новымі кадрамі.

Найбольш забаўную версію прапануюць назіральнікі, якія разглядаюць ракіроўку як пачатак новай хвалі рэформаў. Гэтыя рэформы, па іх словах, павінны кампенсаваць насельніцтву дэфіцыт інстытутаў дэмакратыі. У прыватнасці, Аліеў выступае прыхільнікам адаптацыі розных новых мадэляў кіравання. Напрыклад, гаворка ідзе пра ўжыванне розных лічбавых тэхналогій, за кошт якіх плануюць зняць бар'еры паміж грамадствам і ўладай.

### Скот Морысан



Прэм'ер-міністр Аўстраліі і лідар мясцовых кансерватараў, напэўна, першы палітык у гісторыі, рэйтынг якога можа падарваць пагорак, хоць і незвычайны.

Гаворка пра пагорак Урулу — масіўную скалу ў цэнтральнай Аўстраліі, самы вялікі ў свеце маналіт чырвонага пясчаніку. Не дзіўна, што ён заўжды быў аб'ектам культу абарыгенаў з мясцовага племені Анангу. Праўда, забабоны іх веры аўстралійскі ўрад доўгі час ігнараваў, зрабіўшы прыкладна ў 1950-х з Урулу атракцыён для турыстаў. Толькі ў 1985-м пагорак стаў фармальна належаць тубыльцам, якія адразу прымусілі аддаць яго ў арэнду на 99 гадоў. Аднак у 2019-м бакі вырашылі перагледзець дамову праз тое, што турысты зневажаюць рэлігійныя пачуцці абарыгенаў. У выніку Урулу вырашылі назаўжды закрыць для турыстычных візітаў.

Сама цырымонія закрыцця Урулу для турыстаў стала для абарыгенаў вялікім святам. Факт таго, што экс-каланізатары пагадзіліся на патрабаванні карэнных аўстралійцаў, трактаваўся як новая старонка гісторыі краіны. Між тым, прэм'ер вырашыў аддаць перавагу не цырымоніі, а прагляду нейкага спартовага матчу, што і выклікала скандал.

Абарыгены і апазіцыя называюць паводзіны Морысана праявай некампетэнтнасці. Сам Морысан звяртае ўвагу, што лідары левай апазіцыі таксама праігнаравалі імпрэзу. Застаецца пытанне, як абарыгены будуць кампенсаваць страты. Раней 20 працэнтаў з кожнага квітка для ўздыму на Урулу ішло ў бюджэт парку, які належыць племені. Лідары абарыгенаў абяцаюць прыдумаць новыя атракцыёны, якія могуць прыцягнуць публіку.

### Майкл Пенс



Віцэ-прэзідэнт ЗША нечакана ўмяшаўся ў канфлікт паміж Кітаем і амерыканскай Нацыянальнай баскетбольнай асацыяцыяй (NBA).

На думку Пенса, функцыянеры NBA, а таксама кампанія Nike, якая з'яўляецца спонсарам асацыяцыі, здрадзілі амерыканскім каштоўнасцям. Здрада палягае ў тым, што NBA і Nike трымаюць дыстанцыю ад кіраўніка баскетбольнай каманды Houston Rockets, які выступіў у Twitter у падтрымку дэманстрантаў у Ганконгу. На тую эскападу Пекін адказаў вельмі жорстка: спыніў трансляцыю на кітайскім тэлебачанні матчаў згаданай каманды. Па сутнасці, фірмы ЗША аказаліся пастаўленыя перад выбарам: альбо страціць свае прыбыткі ў КНР, альбо змірыцца з дыктатам.

Выбар быў зроблены на карысць апошняга, што і не спадабалася Пенсу. Паводле яго словаў, баскетбольная арганізацыя і карпарацыя ігнаруюць парушэнне правоў чалавека і паводзяць сябе як філіялы аўтарытарнага рэжыму. Такія паводзіны віцэ-прэзідэнт назваў «неамерыканскімі».

Зрэшты, трэба мець на ўвазе, што гаворка Пенса прагучала напярэдадні чарговага раўнду гандлёвых перамоваў паміж Кітаем і ЗША. У гэтым плане, магчыма, Пенс проста гуляе ў «злога паліцэйскага». Так ці інакш, наўрад ці амерыканская карпарацыя, якім патрэбна кліенцкая база ў КНР, прыслухоўцца да парады Пенса. У сувязі з гэтым даводзіцца пагадзіцца з версіяй, што кітайскія ўлады атрымліваюць усё большыя магчымасці дыктаваць свету свае параметры свабоды слова.




Леанід Акаловіч на канферэнцыі ў падтрымку беларускай аўтакефаліі ў Чарнігаве, жнівень 2019 года



Злева — маленькі Леанід з бацькамі, справа — падчас працы ў БДПУ



З кіраўніком БАПЦ архіепіскапам Святаславам (Логіным) падчас набажэнства ў Кацярынінскай царкве Чарнігава, жнівень 2019 года

# «Мы маем права маліцца на сваёй мове за свой народ і дзяржаву»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Святар Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Леанід Акаловіч нарадзіўся ў перадваенным Мінску, бачыў Якуба Коласа, вучыўся з Барадуліным і Бураўкіным, працаваў зваршчыкам, служыў у войску ў Пячах. Склаў дзясяткі радаводаў, выдаў паўтары сотні навуковых прац па праблемах беларускай мовы, анамастыкі, генеалогіі, краязнаўства. Сёння айцец Леанід святкуе 80-годдзе.**

## Даваенны Мінск, філфак і служба ў Пячах

На інтэрв'ю айцец Леанід запрасіў мяне да сябе дамоў. Тут у яго і месца жыхарства, і малельны дом (БАПЦ не мае свайго памяшкання), і працоўны кабінет, дзе ледзьве змяшчаюцца кнігі і шафы з картатэкамі. Генеалогія — даўняе захапленне Леаніда Акаловіча.

Ён нарадзіўся 30 кастрычніка 1939 года. Род Акаловічаў гербу Астоя прыдомку Крывец — шляхецкі і вядомы ўжо амаль 500 гадоў.

— Я нарадзіўся ў Мінску на Старавіленскім тракце ва ўжо тады стогадовай хаце прадзедаў. У той час быў вялікі мароз, павымярзалі сады, і маці трымала мяне на печы, загорнутага ў вату, каб не змёрз, — узгадвае суразмоўца.

Вайну Леанід Акаловіч памятае цьмяна, бо быў зусім малы. Запомнілася хіба, што хаваліся тады на 4-м Загарадным завулку каля Кальварыі, на ўскрайку Мінска, у хаце дзядоў па маці — Александровічаў. Там жа ў 1946 годзе пайшоў у школу, яна была драўляная і стаяла ля самых Кальварыйскіх могілак, дзе пахаваныя дзяды і прадзеды айца Леаніда.

У 1950-м сям'я вярнулася на Старавіленскі тракт, і будучы святар пайшоў у іншую школу, якая таксама месцілася ля могілак — Старажоўскіх.

— Ужо ў школе я праяўляў пэўную грамадскую актыўнасць: быў старастам класа, потым быў у вучкоме, удзельнічаў у самадзейнасці, гуртках, — узгадвае Леанід Акаловіч. — Тады ж пачалася любоў да роднай мовы. У старэйшых класах дзённік я ўжо вёў па-беларуску. Аднойчы ў Купалаўскім тэатры была вечарына, прысвечаная Адаму Міцкевічу, і на ёй у прэзідыуме сядзеў Якуб Колас. Мы тады, праўда, на галёрку трапілі.

Па-беларуску гаварылі і дзяды будучага святара. Ён памятае вечарыны, куды запрашалі родных і суседзяў, дзед граў на гармоніку і спяваў беларускія песні. Хлопец любіў чытаць беларускія казкі ды слухаць радыё. Мабыць, гэта паспрыяла таму, каб пазней ён абраў беларускае аддзяленне філфаку БДУ. Але першая спроба паступіць была няўдалай: здаўшы сем экзаменаў, Акаловіч не прайшоў па конкурсе.

Давялося ісці працаваць. Уладкаваўся на завод «Ударнік» — сённяшні «Амкадор» — слесарам-зборшчыкам і электразваршчыкам. Адпрацаваў два гады і зноў, не рыхтуючыся, падаў дакументы на філфак. У той час тым, хто ўжо працаваў, давалі палёгку пры паступленні, і Акаловіча прынялі. Тады ж на філфаку вучыліся Генадзь Бураўкін і Рыгор Барадулін, толькі яны былі на некалькі гадоў старэйшыя.

Студэнцкія гады сталі аднымі з самых незабыўных у жыцці Леаніда Акаловіча. Ён зноў выступаў у самадзейнасці, узначальваў дыялекталагічны гурток, ездзіў у экспедыцыі па Беларусі, збіраючы гаворкі. Потым паступіў у аспірантуру і правучыўся там год, пакуль «Хрушчоў не загроб у войска».

— У нас была ваенная артылерыйская кафедра, і на пятым курсе мусілі здаваць экзамены. Але Хрушчоў, прыйшоўшы да ўлады, разагнаў ваенныя кафедры, і мы не здалі экзамены і не былі прызнаныя прайшоўшымі вайсковую службу. І нас больш чым на год забралі ў Печы ў мотастралковы полк танкавай дывізіі. Тады, канешне, такой дзедаўшчыны не было, як цяпер. Хаця было некалькі забойстваў. У нашай роце быў хлопец з Палесся, які, калі мы паехалі на стрэльбішча, пайшоў у прыбіральню і застрэліўся. А яшчэ быў выпадак, як салдат зарэзаў нашага капітана роты.

Па дэмабілізацыі Акаловіч вярнуўся ў аспірантуру, якую скончыў у 1967 годзе. І з таго часу ажно да 2005 года (38 гадоў!) адпрацаваў выкладчыкам беларускай мовы на кафедры беларускай мовы і методыкі яе выкладання ў Беларускім дзяржаўным педуніверсітэце імя Максіма Танка, а таксама намеснікам дэкана на факультэце дашкольнага выхавання.

## Шлях да святарства, ганенні і штрафы

Калі пачалося Адраджэнне, Леанід Акаловіч з паплечнікамі вырашылі стварыць Згуртаванне беларускай шляхты. Выдавалі брашуры, ладзілі заняткі па шляхецкай культуры, складалі радаводы. Старшынёй Згуртавання да самага свайго сыходу быў гісторык Анатоль Грыцкевіч, а духаўніком — вядомы святар Ян Матусевіч.

Тады ж з'явілася ідэя адрадзіць у незалежнай Беларусі аўтакефальную царкву. За гэта ўзяліся Генадзь Кокар, Пётр Гушча і Леанід Акаловіч. У гэты ж час пачала стварацца Беларуская каталіцкая грамада, сярод заснавальнікаў якой быў вядомы мастак Фелікс Янушкевіч. Нягледзячы на назву, да грамады далучаліся і праваслаўныя — «бо там быў нейкі рух», тлумачыць айцец Леанід. Каталікі сталі патрабаваць, каб ім вярнулі касцёлы, і пакрысе дамагліся гэтага.

— Потым я адышоў ад грамады, тым больш, што я не каталік, а запісаўся проста як хрысціянін. Тым больш, што ў каталікоў справы пайшлі, і трэба было брацца за справы праваслаўных. Мы заснавалі парафію ў гонар святой Афрасіні Полацкай. Маліліся ў розных месцах, па хатах, і нават у драўлянай царкве ў музеі ў Строчыцах, пакуль нас адтуль не выгналі. Адзін час маліліся ў клубе ў Шчамысліцы. Але туды наслалі АМАПаўцаў і абклалі клуб. Потым мы аднаўлялі царкву ў Сёмкавым Гарадку, расчысцілі яе ад друзу, будавалі. Але нас зноў пачалі цягаць у пастарунак, мяне некалькі разоў каралі адміністрацыйнымі штрафамі.

У выніку шматлікія спробы займець свой храм скончыліся няўдачай — даходзіла нават да арышту святароў.

— Калі б мы падначальваліся Маскоўскаму патрыярху, усё было б нармальна. Але мы не падначальваемся, таму нас не прызнаюць, называюць ледзь не сектантамі, — кажа айцец Леанід.

Для яго самога пакліканне стаць святаром непарыўна звязанае з пачуццём патрыятызму і адраджэннем беларускай культуры і гісторыі. Але лёсавызначальным, як гэта часта бывае, стаў выпадак. Падчас аднаго з шэсцяў у Мінску напачатку 1990-х святар Пётр Гушча папрасіў Леаніда Акаловіча быць за дыякана.

— Так я, нявысвечаны на святара, апрануў дыяканскае аблачэнне. Але ж і Папа Рымскі сказаў, калі не хапае святароў, прыслугоўваць у касцёле могуць і жанатыя мужчыны, і нават жанчыны. Яны не могуць толькі імшу спраўляць. А ў нас тады якраз не хапала святароў.

Потым ужо адбылося рукапалажэнне Леаніда Акаловіча ў святары, ён атрымаў духоўную адукацыю. Але па сённяшні праблема недахопу святароў у Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царкве не вырашаная. Калі нехта мае такое пакліканне да служэння Богу і Бацькаўшчыне, ёсць магчымасць вывучыцца на дыякана, святара, рэгента ці рэгентшу ў Валынскай праваслаўнай багаслоўскай акадэміі ПЦУ ў Луцку. Вучоба для беларусаў на стацыянарным або завочным аддзяленнях бясплатная.

## «Мы гатовыя ствараць свае цэрквы»

Ідэя аўтакефаліі ў Беларусі не новая, але яна не надта распаўсюджаная ў грамадстве. Упершыню яна аформілася напрыканцы XVIII стагоддзя. У 1791 годзе адбылася Пінская кангрэгацыя — сход праваслаўнага духавенства і вернікаў Рэчы Паспалітай з мэтай стварыць у краіне аўтакефальную царкву, незалежную ад Сінода Расійскай імперыі. Тады была створаная мітраполія ў Рэчы Паспалітай абодвух народаў. Але планы па стварэнні незалежнай царквы былі задушаныя наступленнем на краіну войскаў Суворава і праз два падзелы Рэчы Паспалітай.

Спадзеў на адраджэнне незалежнай ад Расійскай імперыі дзяржавы і царквы з'явіўся быў падчас кампаніі 1812 года, але параза Напалеона не дазволіла яму спраўдзіцца.

Трэцяя спроба аўтакефаліі адбылася ў 1922 годзе. 23 ліпеня ў Мінску сабраўся епархіяльны з'езд, які вырашыў стварыць аўтаномную беларускую мітраполію і абраў мітрапалітам з тытулам Мінскі і Беларускі Мелхіседэка (Паеўскага). 18 жніўня 1922 года была абвешчана Беларуская аўтаномная царква. Мітрапаліт Мелхіседэк рабіў усё магчымае, каб спалучыць інтарэсы царквы з ідэямі беларускага нацыянальнага адраджэння, за што трапіў пад праслед савецкай улады. Тым не менш, папярэднія падзеі паспрыялі таму, каб у 1927 годзе была абвешчаная Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква.

У 1942 годзе быў прыняты статут БАПЦ, але наступленне савецкіх войскаў вымусіла епіскапат Беларускай мітраполіі эміграваць у Германію.

Сёння БАПЦ мае прыходы ў ЗША, Канадзе, Аўстраліі, Вялікабрытаніі, Беларусі. Богаслужэнні вядуцца на беларускай мове. БАПЦ займаецца таксама культурна-асветніцкай, выдавецкай, грамадскай, дабрачыннай дзейнасцю, дапамагае беларусам захаваць сваю нацыянальную духоўную спадчыну. Айцец Леанід Акаловіч называе беларускую незалежную царкву «вандроўнай»: святары праводзяць багаслужэнні з розных нагодаў па ўсёй краіне, актыўна ўдзельнічаюць у акцыях ушанавання памяці рэпрэсаваных і герояў беларускай гісторыі.

— Мы ні ў каго не адбіраем цэркваў, гатовыя самі ствараць свае, мы не агрэсіўныя і вельмі паважаем святароў, якія ладзяць набажэнствы на беларускай мове — добра, што цяпер гэтая практыка з'явілася ў Беларускім экзархаце, — кажа айцец Леанід. — У нас адзін Хрыстос, і мы ў сваёй Бацькаўшчыне маем права маліцца на сваёй мове за свой народ і дзяржаву.

Больш даведацца пра гісторыю хрысціянства і аўтакефаліі на Беларусі можна на пасяджэннях «Менскага хрысціянскага брацтва», дзе беларускія навукоўцы будуць выступаць з дакладамі. Лекцыі плануецца праводзіць прыкладна раз на месяц, абвесткі будуць, абяцае айцец Леанід.

# Алесь Адамовіч: драматычны і малавядомы



Сяргей ШАПРАН

**Алесь Адамовіч — фігура дасюль недаацэненая, драматычная і найцікавая: таленавіты пісьменнік і выбітны літаратуразнавец, яскравы публіцыст і нястомны грамадскі дзеяч, сябар Васіля Быкава і Янкі Брыля, настаўнік Святланы Алексіевіч, ён усё жыццё вымушаны быў жыць, па ўласным вызначэнні, паміж Мінскам і Масквой — калі ціснулі дома, ён, ратуючыся, з'язджаў у Маскву; калі ціснулі там — вяртаўся дадому.**

У пасёлку Глуша Бабруйскага раёна 9 лістапада адбудзецца адкрыццё бюста Алеся Адамовіча — першага не толькі на малой радзіме пісьменніка, а ўвогуле ў Беларусі. Гэта сталася магчымым дзякуючы аўтару ініцыятывы Алесю Архіпенку, намаганнямі якога грошы на помнік былі сабраны ўсёй беларускай грамадой.

Узгадваючы Алеся Адамовіча, мы перачыталі нататнікі пісьменніка і ўспаміны яго сяброў.

### У мэтах «асветніцтва»

1957 год. Паважны кадэбэшны «чын» колькі гадзін запар схіляе Алеся Адамовіча да супрацоўніцтва:

— Вы самі патрабуеце вярнуць пісьменнікам іх чэсныя імёны, дык дапамагайце нам у гэтым! Вазьміце і напішыце штосьці для нас! Чаго баіцеся? Ці не паважаеце нашу працу? Вы што ж, нават такой дробязі не можаце зрабіць для дзяржавы, якая вас вывучыла і выхавала? Вы думаеце, што з вас хочуць зрабіць «сэксота»? Памыляецеся — гэтага «дабра» ў нас хапае. Зразумейце ж, што ваш брат пісьменнік — чалавек дужа бестурботны. Калі яго не перасцерагчы, то ў такое ўлезе!.. Пасля сам не рады будзе! Мы цяпер занятыя прафілактыкай, выключна прафілактыкай. А для гэтага павінны разумець, што адбываецца ў пісьменніцкім асяродку. Каб пасля не займацца рэабілітацыямі. Нам патрэбныя кваліфікаваныя людзі, якія маглі б нас адукоўваць. Разумееце? Не даносіць, а займацца асветніцтвам...

Пасля чатырох гадзін падобных угавораў «чын» раптам зрываецца на вокрык:

— Пішыце!

—? — Адамовіч не цяміць, што павінен напісаць.

— Пішыце, што нікому ніколі не распаведзяце пра гэтую размову!

### Уся справа ў азначэнні

Алесь Адамовіч прыгадваў: «Палітыкамі нашыя бацькі не былі, іх адвучылі начыста. Даваенны страх доўжыўся і ў пераможцах. А мы, хто маладзейшы, што прынеслі з вайны, а што зачарпнуўшы пасля ХХ з'езда, усё больш адчувалі смак да палітыкі. Мама прыглядалася не без трывогі.

Званок у Мінск:

— Саша, дык што гэта такое?

— А што?

— У газеце напісана, мне паказвалі, у "Звяздзе", што ты нігіліст!

— Ну і што? Базараў быў таксама нігіліст.

— Але тут напісана: ржавы!»

### «Суддзя»

Пасля рэабілітацыі пісьменнікаў, што былі рэпрэсаваны за сталінскім часам, Белдзяржвыдату БССР было прапанава перавыдаць іх творы. Але паколькі разам з літаратарамі рэпрэсавалі і іх кнігі, была створана камісія па пошуку гэтых самых кніг і іх падрыхтоўцы да перавыдання. У камісію ўвайшоў і Алесь Кучар, які звычайна казаў:

— Вельмі цікавы раман, вельмі! Але ж...

І далей ішло заключэнне: каб сённяшні чытач прыняў даўні твор, неабходна зрабіць купюры. Але, паводле закона, купюры магчымыя толькі са згоды аўтара. Калі аўтара няма сярод жывых, тады — па ўзгадненні са сваякамі. Калі няма і іх — рабіць купюры забаронена, а гэта значыць, што выдаваць твор нельга. Кола гэткім чынам замыкалася.

Кучарава казуістыка стала зразумелай пасля таго, як такім мудрагелістым чынам быў вынесены прысуд ужо трэцяму рэпрэсаванаму аўтару: «Вельмі цікавы раман, вельмі! Але ж...» Старшы рэдактар выдавецтва Раман Ярохін, які таксама ўваходзіў у склад той камісіі, задаўся пытаннем:

— Дык што ж гэта атрымліваецца: у трыццаць сёмым тапіў жывых, а сёння — топіць памерлых?!

Выпадкова сустрэты ўніверсітэцкі сябар Алесь Адамовіч, даведаўшыся пра гэта, папрасіў Ярохіна заўтра ўранні любымі праўдамі-няпраўдамі затрымаць Кучара ў выдавецтве да таго часу, пакуль ён, Адамовіч, не прыйдзе. Патлумачыў:

— Ад заўтрашняга дня Кучар перастане быць суддзёй.

Нараніцу Адамовіч быў у рэдакцыі.

— Алесь! — узрадавана звярнуўся ён да Кучара. — Учора прачытаў артыкул — адурэў ад здзіўлення!

Кучар выскачыў з-за стала, падбег да Адамовіча, схапіў яго за рукі (ён заўсёды так рабіў — хапаў за рукі) і нецярпліва затармасіў:

— Алесенька! Дай мне пачытаць, дай!



Фота Уладзіміра Крука

— Дый ён у цябе павінен быць. Так мне здаецца, — усміхнуўся Адамовіч і, назваўшы артыкул, удакладніў: — Часопіс «Полымя» 1937 года.

Усе прысутныя зразумелі: размова ішла пра артыкул-данос літаратурнага крытыка Алеся Кучара. Казытлівасць сітуацыі заключалася ў тым, што, як расказвалі, пасля рэабілітацыі пісьменнікаў Кучар брытвай павыразаў усе свае часопісныя і газетныя публікацыі ў бібліятэках ад Адэсы да Мінска і быў, відаць, перакананы, што гэткім чынам назаўсёды замёў сляды ўласных злачынстваў. Дык дзе ж мог Адамовіч прачытаць той Кучараў артыкул 1937-га года? Хутчэй за ўсё, у хатняй бібліятэцы Пятра Глебкі, у якой былі ў тым ліку перадваенныя падшыўкі «Полымя». І вось цяпер Кучар, мусіць, ніяк не чакаўшы такога развіцця сюжэта, апусціў рукі і знямеў. Ён стаяў, можа, хвіліну, утаропіўшыся ў дзверы, нібы аслупянеў. Выгляд у яго быў страшны. Пасля моўчкі зняў з вешалкі паліто, шапку і — выйшаў.

Назаўтра хтосьці прынёс дырэктару выдавецтва Матузаву Кучараву заяву з просьбай аб звальненні па ўласным жаданні.

### Замест прадмовы

1963 год. Ужо падрыхтаваны да друку Адамовічаў раман «Сыны сыходзяць у бой» у апошні момант раптам «зарэзала» цэнзура. Больш за тое, вось-вось мог быць рассыпаны набор кнігі. Сам аўтар ужо быў гатовы здацца, казаў:

— У Галоўліта не адваюеш!

А ўсё таму, што ў той час некаторыя гісторыкі на Захадзе сцвярджалі, што ў Беларусі ў 1940-я гады была не айчынная, а грамадзянская вайна. І каб не падліваць масла ў агонь, беларускі Галоўліт асабліва пільна чытаў творы на партызанскую тэму. Адамовічу ж ставілася ў віну, што ў паказе партызанскага руху ён згусціў фарбы да чарнаты — маўляў, народныя мсціўцы не столькі з немцамі ваююць, колькі з паліцаямі. А гэта ўжо падобна на тую самую грамадзянскую вайну, пра якую і кажуць нашы ворагі на Захадзе.

Каб выратаваць раман, старшы рэдактар Белдзяржвыда Раман Ярохін прапанаваў аўтару:

— Вось глядзі: партызаны з узбярэжнага лесу праводзяць вачыма параходзік, на якім паліцаі п'яна гарлапаняць песні. Гэта ўсяго толькі пейзажная замалёўка, якая ні на развіццё сюжэта, ні на што іншае не ўплывае — твае партызаны з гэтымі паліцаямі больш нідзе не сустрэнуцца. Я зараз выкрэсліваю слова «паліцаі», а на яго месца ўпісваю «немчура». Што змянілася? Быццам бы нічога. А цэнзара я ўжо пачынаю пераконваць: вашы заўвагі аўтар улічыў... І так па ўсёй кнізе!

— Правім, — асцярожна пагадзіўся Адамовіч.

Удвух вылоўліваючы цэнзарскіх «птушак», прасядзелі над раманам да самай ночы. Часам Адамовіч правіў нават там, дзе гэта не патрабавалася. І кожнага разу прыгаворваў:

— А так нават і лепш!

Ужо назаўтра Ярохін быў у цэнзара:

— Вашы справядлівыя заўвагі ўлічаны — ніякай грамадзянскай вайны ў рамане ўжо няма!

У выдавецтва ён вярнуўся радасны — друкаваць раман цэнзура дазволіла.

### «Даць ім па мордзе!»

Алесь Адамовіч прыгадваў, як падчас абмеркавання ў Саюзе пісьменнікаў «Каласоў пад сярпом тваім» ён уголас заявіў, што пакуль не выганяць з выдавецтва дырэктара Захара Матузава, апублікаваць раман не ўдасца. Канешне, Захару Пятровічу пра гэта стала вядома — праз колькі дзён ён казаў між іншым Янку Брылю:

— Нягледзячы на безадказную заяву Адамовіча, я выдам Караткевіча.

І сапраўды выдаў. Затое неўзабаве сам Адамовіч атрымаў з выдавецтва свае адрэдагаваныя ўжо аповесці з прыкладзенай паперкай ад галоўнага рэдактара Алеся Бажко: «Вяртаем вашы аповесці». І — усё, без каментараў, як кажуць.

Дык хай бы толькі вярнулі — Адамовіча потым у матузаўскім выдавецтве яшчэ добры дзясятак гадоў не друкавалі! Ужо і «Каласы...» даўно выйшлі, якія Караткевіч усё забываўся падпісаць Адамовічу, пакуль Брыль не стаў яго сарамаціць:

— З-за цябе хлопца колькі гадоў не выдаюць!

А за колькі дзён да смерці Караткевіч нечакана сказаў Адамовічу, узгадаўшы ці штосьці сваё, ці даўнюю гісторыю з «Каласамі...»:

— Слухай, нешта хацеў бы зрабіць: даць ім па мордзе!

### Калі справядлівасць бярэ верх

Караткевічавы «Каласы...» пэўны час не выходзілі асобным выданнем, бо ў выдавецтве ад аўтара патрабавалі, каб ён улічыў заўвагі сумна вядомага крытыка Якава Герцовіча. Калі ж раман нарэшце быў надрукаваны, Герцовіч змаўчаў і толькі паскардзіўся на нейкай высокай нарадзе, што з-за яго артыкула пра Караткевіча газета «Звязда» патрабуе, каб ён падпісваўся не сваім сапраўдным імем, а псеўданімам.

На Герцовічаву скаргу Адамовіч заўважыў:

— Гэта робіць гонар «Звяздзе»!

### Той самы Даль Арлоў

Ідэя фільма «Ідзі і глядзі» Элема Клімава па сцэнары Алеся Адамовіча, хоць і знайшла падтрымку ў беларускім ЦК у асобах Машэрава і Кузьміна, але была «зарэзаная» Масквой — наўмысна з гэтай мэтай у Мінск выправіўся дэсант з Дзяржкіно СССР у складзе двух начальнікаў: Уладзіміра Паўлёнка і Даля Арлова.

— Так, сцэнарый прыняты, але паступіла заява. Дый у нас ёсць заўвагі, — казалі маскоўскія госці.

І вось замест кіназдымак сабралася мастацкая рада, падчас якой бальшыня станоўча адгукалася пра сцэнарый, імкнучыся падтрымаць Клімава, бо беларускія кінематаграфісты разумелі, што маскоўцы «дэсанціраваліся» не проста так.

Працяг на стар. 12 »

« Заканчэнне.
Пачатак на на стар. 11

Слова ўзяў і Адамовіч — яго прамова была вельмі пахвальнай для Клімава, але шкоднай для агульнай справы, бо замест таго, каб змякчыць ці згладзіць, ён, наадварот, усё завастрыў.

— Вам што, не страшна, Даль Канстанцінавіч? — Адамовіч звярнуўся непасрэдна да Даля Арлова. — Пройдзе час, і адзіная прычына, па якой вы застанецеся ў гісторыі кіно, будзе — «той самы Даль Арлоў, які не даў Клімаву зрабіць фільм»!

— Ну, ведаеце!.. — толькі і абурыўся той.

Зрэшты, нават і гэты аргумент не падзейнічаў, і сцэнарый атрымаў дванаццаць забойных заўваг, адна горшая за папярэднюю. Клімаў пагадзіўся толькі з адной, і сцэнарый быў забаронены.

Адамовіч яшчэ хацеў, ці жартам, ці ўсур'ёз, стрэліць з ружжа халастым, але яго спыніў Клімаў:

— А раптам сканае ад страху, — Клімаў меў на ўвазе Даля Арлова. — Вам сядзець прыйдзецца.

...Пройдзе амаль паўстагоддзя, ужо не будзе ні Адамовіча, ні Клімава, затое чарговы юбілей адзначыць Даль Арлоў. Маскоўскае тэлебачанне будзе распавядаць пра яго як пра «легенду айчыннага кіно». І ніхто не ўзгадае, што юбілей спраўляе той самы Даль Арлоў, які не даў Элему Клімаву здымаць фільм.

### Спрадвечнае пытанне

Калі падчас гарбачоўскай «перабудовы» Адамовіч з галавой сышоў у публіцыстыку, яго сябар са студэнцкіх часоў журналіст Раман Ярохін запытаўся:

— Ці не перабор?

Адамовіч адказаў:

— Калісьці Раман Ярохін распавядаў, што сваю дыпломную працу ва ўніверсітэце пісаў па Някрасаву. Ці не забыўся ягоныя радкі: «Поэтом можешь ты не быть, но гражданином быть обязан»?

— Але ж можа здарыцца і так: стаўшы грамадзянінам, перастанеш быць паэтам.

Пра гэта некалі казаў і Янка Брыль, на што Адамовіч запярэчыў:

— Леў Талстой вельмі нават шанаваў публіцыстыку.

— Але да таго часу за плячыма ў Талстога ўжо была «Вайна і мір», — рэзонна парыраваў Брыль.

Прыгадаўшы цяпер тую размову, Ярохін перапытаў:

— Не баішся гэтага?

— А ты дзе сустрэў Чарнобыль? — на пытанне Адамовіч адказаў пытаннем.

Тады Ярохін і распавёў, што ў той дзень шпацыраваў разам з крытыкам Барысам Бур'янам па мінскім праспекце — дужа ўжо вясновае было надвор'е! Як раптам сябрам падалося, што на галовы сыпле цца нейкая шэрань. Але, на дзіва, на небе не было ні воблачка! І толькі пазней стала вядома: у выніку аварыі на Чарнобыльскай АЭС, пра якую 26 красавіка ўлады злачынна маўчалі, Мінск накрыла хмара нябачнага радыеактыўнага пылу.

Выслухаўшы аповед сябра, Адамовіч запытаўся:

— І ці мог у гэтай трагедыі «паэт» Адамовіч не стаць «грамадзянінам»?

### Не стрымаўся

Калі загадчык аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ Савелій Паўлаў — той самы Паўлаў, які кіраваў кампаніяй супраць Марка Шагала і які недаўменна пытаўся ў Святланы Алексіевіч: «Адкуль вы такая ўзяліся ў нашай краіне?!» — даведаўся, што «нязручны» для ўлады пісьменнік Адамовіч збіраецца ў складзе беларускай дэлегацыі за мяжу, ідэалагічны «пастыр» не стрымаўся:

— Хай бы ён там застаўся!

### Заклад

Будучы ў пачатку лета 1991 года ў Амерыцы, Алесь Адамовіч паспрачаўся з былым Дзяржсакратаром ЗША і нобелеўскім лаўрэатам Генры Кісінджэрам адносна будучыні Савецкага Саюза. Яго прагноз быў такі: ужо ўвосень Камуністычная партыя сыдзе з палітычнага жыцця, і яшчэ добра будзе, калі з дзевяці мільёнаў у яе шэрагах застанецца хоць бы паўмільёна. Кісінджэр, не падзяляючы аптымізму Адамовіча, пабіўся аб заклад, які неўзабаве з трэскам прайграў: пасля жнівеньскага путчу дзейнасць КПСС указам Ельцына была спыненая, а маёмасць канфіскаваная.

Распавядаючы пра заклад з Кісінджэрам, Адамовіч заключаў: «Вось толькі не магу дакладна ўспомніць, што ён мне застаўся вінен».

### Выбар

Алесь Адамовіч распавядаў, як, гуляючы неяк разам з Васілём Быкавым, загаварылі пра тое, а ці хацелі б пачаць жыццё спачатку? Ранейшае закрэсліваецца цалкам, табе сёння дваццаць, жыві наноў! Разважалі, што так ці не, добра або дрэнна, але прайшлі па жыцці, хоць і з вялікімі стратамі, аднаго ўсё ж не страціўшы — твару быццам не страцілі. Хочацца верыць, што не загнала жыццё (а заганяла) у чужую, не сваю шкуру. І вось прыкінулі: а ці выстаялі б яшчэ раз?

У выніку абодва сышліся на тым, што не прынялі б такога падарунка — не захацелі б пачаць жыць наноў.

### Няшчасная кніга

З нататнікаў Алеся Адамовіча:

«Аднойчы мне распавялі, відаць, жадаючы дагадзіць майму самалюбству. Паміраў малады хлопец і ведаў, што памірае, сказаў сваім: "Цяпер вы ідзіце, а я яшчэ пачытаю". А яму перад тым прынеслі кнігу. І гэтая кніга была мая. Уяўляеце, нікчэмнай, не вартай такой хвіліны ў жыцці чалавечай падалася мне гэтая няшчасная мая кніга, раман. Я, калі застаўся адзін, схапіў яе, як злодзея, самазванца: і ты адважыўся пайсці да паміраючага з гэтым словам, лезці да яго ў рукі. Нібыта ў сапраўднасці я сам уклаў у рукі паміраючага свае вартыя жалю словы замест Вечнай Кнігі. Якая павінна была быць у ягоных руках, але якой не было.

Шчыра скажу, пасля гэтага я доўгі час не тое, што не мог, а баяўся пісаць. І ўвогуле стаў дакументалістам, каб не пісаць, а слухаць».

# БагатаДата




**На тыдні святкуюць гадавіны мінскі ЦУМ (55 гадоў) і Нацыянальны мастацкі музей — 80 гадоў! А хто яшчэ што адзначае — у нашым аглядзе.**

### 2 лістапада

**Дзяды (Дзень памяці продкаў) і Сусветны дзень мужчын.**

**1909.** У вёсцы Прусы (Салігорскі раён Мінскай вобласці) нарадзіўся пісьменнік Максім Лужанін. Сапраўднае імя — Аляксандр Каратай. Літаратурны сакратар Якуба Коласа, напісаў кнігу «Колас расказвае пра сябе». Арыштоўваўся ДПУ і быў асуджаны на два гады лагера як «член контррэвалюцыйнай нацдэмаўскай арганізацыі», працаваў адказным сакратаром часопіса «Вожык» і галоўным рэдактарам кінастудыі «Беларусьфільм».

**1974.** У Мінску нарадзіўся адзін з самых вядомых хакеістаў у гісторыі Беларусі Руслан Салей. Па амплуа быў абаронцам, гуляў за мінскія «Юнацтва», «Дынама», «Цівалі». У НХЛ у складзе «Анахайм Майці Дакс» у 2003 годзе дайшоў да фіналу Кубку Стэнлі. Беларуская федэрацыя хакея вывела са звароту ў нацыянальнай зборнай 24-ы нумар, пад якім гуляў і быў капітанам Салей. У памяць пра хакеіста, які загінуў у 2011 годзе ў авіякатастрофе пад Яраслаўлем, праводзіцца штогадовы турнір.

### 3 лістапада

**Дзень працаўнікоў грамадзянскай авіяцыі** (адзначаецца ў Беларусі ў першую нядзелю лістапада).

**1964.** У Гродне нарадзіўся палітаглядальнік і літаратуразнаўца Аляксандр Фядута. Узначальваў Саюз моладзі Беларусі, у



1994 годзе, пасля перамогі на прэзідэнцкіх выбарах Аляксандра Лукашэнкі, кіраваў упраўленнем грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі прэзідэнта. Пайшоў у адстаўку ў снежні таго ж года пасля з'яўлення ў газетах «белых плямаў» замест даклада дэпутата Сяргея Антончыка пра карупцыю ў атачэнні прэзідэнта. Палітвязень пасля выбараў–2010.

### 4 лістапада

**1924.** Прынятая пастанова аб стварэнні ў Віцебску ветэрынарнага інстытута — цяпер гэта Віцебская дзяржаўная акадэмія ветэрынарнай медыцыны.

### 5 лістапада

**1864.** У вёсцы Бабкоў Аршанскага раёна на Віцебшчыне нарадзіўся географ, натураліст Аляксей Бялыніцкі-Біруля. Дырэктар Заалагічнага музею Акадэміі навук СССР. У 1930 годзе арыштаваны па сфабрыкаванай «акадэмічнай справе» супраць вучоных у Ленінградзе. Спачатку быў лагер, а потым ссылка ў Архангельск. Памёр і пахаваны ў Санкт-Пецярбургу.

**1904.** У вёсцы Асецішча Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці нарадзілася французская мастачка Надзея Хадасевіч-Лежэ. Была вучаніцай Казіміра Малевіча. З 1924 года яна жыла ў Парыжы. Яе графіка ёсць у Нацыянальным мастацкім музеі. Да 24 лістапада там праце выставачны праект «Надзя». Можна пабачыць як працы самой мастачкі, так і еўрапейскіх творцаў, у тым ліку Пікаса, якія яна ў свой час, наведваючы СССР, падарыла музею.

**1954.** Памёр паэт і перакладчык Міхась Клімковіч, аўтар тэксту да гімну БССР «Мы, беларусы», першы старшыня праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі.

**1964.** У Мінску адчыніўся ЦУМ — Цэнтральны ўнівермаг. Першапачатковая крама была двухпавярховай. Рэканструкцыю з павелічэннем гандлёвых плошчаў зрабілі ў 1990-я гады.

### 6 лістапада

**1914.** У вёсцы Пуканаўка Полацкага раёна на Віцебшчыне нарадзіўся дзяржаўны дзеяч БССР Дзмітрый Цыбут. Кіраваў Міністэрствам нарыхтовак. У розныя гады яно было таксама Міністэрствам хлебапрадуктаў.

### 7 лістапада

**Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі** — па-ранейшаму свята і выхадны дзень у афіцыйным календары Беларусі.

**1899.** У польскім горадзе Пётркаў-Трыбунальскі нарадзіўся беларускі археолаг Васіль Тарасенка. Лічыцца заснавальнікам беларускай гарадской археалогіі. Ён першым пачаў вывучаць старажытны Мінск — у прыватнасці, вёў раскопкі гарадзішча.

**1939.** У вёсцы Рэчыца Чэрыкаўскага раёна Магілёўскай вобласці нарадзіўся Уладзімір Ягораў. Першы міністр унутраных спраў незалежнай Беларусі, затым у 1994–1995 гадах — старшыня КДБ.

### 8 лістапада

**1784.** У маёнтку Шаўры (цяпер Воранаўскі раён Гродзеншчыны) нарадзіўся гісторык, археолаг, ваенны інжынер Тэадор Нарбут. Браў удзел у праектаванні і будаўніцтве Бабруйскай крэпасці. Даследаваў гісторыю ВКЛ, напісаў 9-томную «Гісторыю літоўскага народа». За тое, што яго дзеці ўзялі ўдзел у паўстанні 1863 года, быў прысуджаны разам з жонкай да высылкі. Праз узрост і дрэнны стан здароўя Тэадора Нарбута ў выніку пакінулі паміраць дома (ён сканаў у 1864-м), а вось яго жонка 20 гадоў прабыла ў Пензенскай губерні.

**1929.** У Мінску запрацаваў хімфармзавод імя першай пяцігодкі. Так паўставала цяперашняе прадпрыемства «Белмедпрэпараты».

**1939.** У Мінску адкрылася Дзяржаўная карцінная галерэя — праобраз Нацыянальнага мастацкага музея.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1779

Падпісана да друку 01.11.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.